ISSN 0320-7579

№ 1/2015(1040)

# Бярозка

Чытаць і думаць

## ЯК ЗРАБІЦЬ З МУХІ СЛАНА?

Эксперымент-забаўка

## ПАЛІНА КУЗЬМІЦКАЯ:

«Баюся рабіць плоскія тэксты і не ўсведамляць гэта»

## ДОБРАЯ РЭЧ ПАЛІМПСЕСТ,

але і дрэнная адначасова

Малюнак Андрэя Царыкевіча

## ЯК СТАЦЬ САПРАЎДНЫМ ШЛЯХЦІЦАМ?

## АДКАЗАЦЬ НА «ДЗЯСЯТКУ»? ЛЁГКА!

# Павінны любіць маляваць

Мінская дзяржаўная гімназія-каледж мастацтваў — сапраўдная майстэрня беларускай культуры! Акрамя агульнаадукацыйнай падрыхтоўкі, навучэнцы атрымліваюць тут і прафесійна-мастацкую. Ды такой якасці, што не менш як 90—96 працэнтаў выпускнікоў становяцца студэнтамі «профільных» ВНУ з першай спробы. І цудоўная гэта традыцыя доўжыцца ўжо шмат год.

Яшчэ можна дадаць, што 22 навучэнцы гэтай установы сталі стыпендыятамі Фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Па падтрымцы таленавітай моладзі». Работы вучняў экспанаваліся ў 60 краінах свету, іх персанальныя выставы з поспехам прайшлі ў Германіі, Францыі, Нарвегіі, ЗША, Даніі і Польшы. Навучэнцы гімназіі-каледжа рэгулярна становяцца пераможцамі прадметных алімпіяд на ўзроўні не толькі раёна, але і ўсяго Мінска.

Зразумела, не кожны зможа вучыцца тут, нават калі вельмі пажадае. Бо ў гімназіі-каледжы рыхтуюць не проста адукаваных людзей, а прафесійных мастакоў. Прычым па дзвюх спецыяльнасцях: дызайн і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. А значыць, вучні, якія прыходзяць сюды, павінны любіць маляваць і ўмець гэта рабіць — мець талент. У гімназіі-каледжы гэты талент абавязкова заўважаць і будуць цярпліва яго развіваць цэласнай педагагічнай сістэмай бесперапыннай адукацыі з трох ступеняў: пачатковая школа (2—4 класы), гімназія (5—11 класы) і каледж (I—III курсы).

Працы навучэнцаў, прысвечаныя Мінску, «Бярозка» друкуе на сваіх вокладках, пачынаючы з гэтага нумара. Запрашаем да такога ж супрацоўніцтва іншыя мастацкія школы краіны.

***Генадзь АЎЛАСЕНКА***



*Марыя КАНТУНОВА.*



*Ганна ЖУРУН.*



*Насця ЯКУБОЎСКАЯ.*



*Паліна ЛЯДНЁВА.*



*Дар'я МАРХЕЛЬ.*



*Юлія МІШУК.*





## НІБЫ Ў ЧАРОЎНАЙ КАЗЦЫ НАВАКОЛЛЕ

***

Зіма скавала рэчак бег.
Мароз папрацаваў старанна.
Закрыў зямлі напружаныя раны
Бялюткі, мяккі-мяккі першы снег.

Зімовай сцюжай заняло абшар,
У шэрані бярозавае голле…
Нібы ў чароўнай казцы наваколле
Здзяйсняе маляванкі даўніх мар.

І з кожным ранкам карацеюць дні,
А вечарамі тут пануе скруха…
Ад гучных гукаў стомленае вуха
Даўно шукае звонкай цішыні.

*Ганна ПРАЛЫГІНА,*
*7 клас, гімназія № 25, Мінск*



## ЗІМОВАЯ КАЗКА

Танцуюць над лесам сняжынкі
І ціха над намі плывуць.
Павольна знікаюць сцяжынкі,
У казку сумёты завуць.

Прыгожа, ну быццам у сне!
Ды толькі чамусьці дрыжу…
Мароз працінае мяне.
«Сагрэйце!» — сняжынкам кажу.

***Дар'я АКУЛІЧ,***
***8 клас, Ждановіцкая СШ***

## ДЗЯЎЧЫНКА І СНЯЖЫНКА

Аднойчы зімою гуляла дзяўчынка
І ёй на далоньку прысела сняжынка.
Дзяўчынка сказала:
— Сняжынка, друг мой!
Далей не ляці!
Заставайся са мной!
Мы будзем з табой сябраваць,
Спяваць, весяліцца, гуляць…
Ды толькі яна так сказала,
Глядзіць — а сняжынка растала.
І шэпча ціхутка: «Дзяўчынка, бывай!
Наступнай зімою мяне ты чакай.
Я стану лагодным паветрам,
У небе сустрэнуся з ветрам,
На хмарцы крыху пракачуся,
У кропельку ператваруся…
І снежнай халоднай зімой
Сустрэнуся зноўку з табой.

***Маргарыта МАКЕЕНКА,***
***8 клас, гімназія № 14, Мінск***

## АДНОЎЛЕНАМУ ДНЮ

Павольна,
асцярожна,
нібы ў сне,
З нябёсаў апускаўся
першы снег.
Бялюткі,
асляпляльна чысты…

З нябёсаў
ападала
чысціня
На слоту,
цёмную макрэчу.
Ахвяравальна,
шчодра
і аддана…
Бо гэта ўсё яму —
новаму зімоваму дню.

***Аляксей КОЛЬЧАНКА,***
***8 клас, СШ № 1, Ельск***



***Малюнкі Алёны ЛАРЫЁНАВАЙ***



# Зімовыя ўспаміны дзяцінства

Падае першы снег. Бялюткія сняжынкі пухнатай коўдрай засцілаюць зямлю. Я назіраю за імі і думаю: якой будзе гэта зіма, якія падзеі, сустрэчы, уражанні прынясе мне яна?

І ўспамінаецца, як аднойчы, калі я вучыўся ў першым класе, мы з бацькамі ляпілі снегавікоў. Весела качалі вялікія камякі снегу, ставілі іх адзін на адзін, і праз некаторы час побач з намі з'явілася трое вясёлых снежных сяброў. Яны атрымаліся вельмі прыгожымі, былі падобныя на маму, тату і мяне.

Да гэтай пары я памятаю пачуцці, якія ўзніклі ў той момант у маёй душы. Мне было радасна, што побач са мной мае мама і тата. Было цікава, якімі атрымаюцца нашы снегавікі, і трошкі сумна, што з цягам часу яны растануць. А яшчэ я быў шчаслівы, таму што на двары цудоўны зімовы дзень, і ў мяне з'явіліся новыя сябры.

Вось колькі розных пачуццяў можа ўзнікнуць у чалавека, калі яму прыемна! Няхай снег новай зімы падорыць людзям шмат прыемных пачуццяў. Да сустрэчы, новыя снегавікі!

*Малюнак Алёны ЛАРЫЁНАВАЙ*

***Дзяніс БУТОРЫН,***
***7 клас, гімназія № 1, Мінск***

# Толькі ты і зіма

Колькі радасці ўзнікае на сэрцы, калі выпадае першы снег! Прырода пачынае адкрываць сваю сапраўдную зімовую прыгажосць. Усё вакол знаходзіцца ў нейкім чароўным сне. Ад сонца, якое звісае нізка над зямлёй, усё блішчыць і іскрыцца, вочы асляпляе снег, які ад сонечных прамянёў робіцца не белым, а залатым. Калючы мароз і скрыпучы снег зацягваюць нас у таямнічае царства прыроды, з якога не хочацца выходзіць. У гэтым царстве — толькі ты і зіма. І толькі тут можна па-сапраўднаму адчуць і зразумець зімовы настрой Максіма Багдановіча, які вельмі падобны да твайго.

Здароў, марозны, звонкі вечар!
Здароў, скрыпучы, мяккі снег!
Мяцель не вее, сціхнуў вецер,
І волен лёгкіх санак бег.

І гэта сапраўды так!

***Юлія ПРАСЯНЦОВА,***
***9 клас, Сакалоўская СШ, Чэрыкаўскі раён***

Заяўка на Парнас

# Рарытэт



Прачытаўшы артыкул, яна ўсміхнулася, паматала галавой і вымавіла толькі кароткае:

— Нет.

Я закрыў твар апошнім нумарам нашага часопіса, каб Кіра не заўважыла маю ўсмешку.

— Почему — нет? — здзіўлена і нават абурана запытала мая калега. — Что именно не нравится?

— Название статьи. Его непременно нужно изменить, — непахісна заявіла дзяўчына.

Мяне калаціла ад смеху. Кіра кінула ў мой бок строгі знішчальны позірк. Я падняў часопіс яшчэ вышэй, зусім схаваўшыся за ім.

Я яе папярэджваў. Я казаў ёй, што ніколі «зорка» не дасць згоду на размяшчэнне ў газеце артыкула з такой назвай. Мы нават паспрачаліся з Кірай, і цяпер яна прайграла. Яна дрэнна ведае «зорку», каб падумаць, што тая дасць згоду на такі скандальны загаловак. Так, я часта жартую з Кіры, што ёй трэба было б ісці працаваць у «жоўтай» газеце, а не ў дзяржаўным часопісе.

Настасся Берасцейская. Маладая спявачка. Менавіта яе мы з Кірай завочна завём «зоркай». Яна адносна нядаўна з'явілася на эстрадзе, але, таленавітая і яскравая, даволі хутка стала вядомай не толькі ў нашай краіне, але і ў суседніх.

Заўсёды чамусьці лічыў, што яна патрыётка. Безумоўна, павінна ёй быць. Тым больш — з такім псеўданімам. Чамусьці мне так здавалася. Калі я даведаўся, што Кіра бярэ інтэрв'ю ў Настассі, я дабіўся, каб яно праходзіла ў нашай рэдакцыі, а сам на працягу ўсяго інтэрв'ю круціўся ў кабінеце, каб мець магчымасць паназіраць за «зоркай».

Калі я запытаўся ў Кіры пра штосьці, як заўсёды на беларускай мове, злавіў на сабе

здзіўлены і зацікаўлены позірк Настассі. Я гатовы паклясціся, што позірк быў менавіта зацікаўленым.

Мае меркаванні наконт яе не змяніліся. Яна — адкрытая і пазітыўная, добразычлівая і разумная. Усе гэтыя якасці не ішлі да таго скандальнага загалоўка, які атрымаўся ў Кіры.

— Аднак жа, як нецікава спрачацца на інтарэс! — вымавіў я з нейкім нават шкадаваннем у голасе, калі, дамовіўшыся з Кірай пра новы загаловак, «зорка» развіталася з намі і пайшла з рэдакцыі. — Асабліва калі ведаеш, што ты маеш рацыю.

— Да ну тебя! — адмахнулася калега. — Принципиальность когда-нибудь её погубит.

— Наўрад ці, — хмыкнуў я. У нас з Кірай адрозніваецца разуменне слова «загубіць».

— Хорошо, ты выиграл! — здалася Кіра. — Доволен? Крестьянин торжествует, да? — падкалола яна.

— Так, — задаволена адказаў я, не звяртаючы ўвагі на яе выпад. Пачакаўшы некалькі імгненняў, з'едліва дадаў: — На гэты раз ты ў сваім артыкуле абышлася нават без перайначвання слоў субяседніка, а гэта ўжо прагрэс.

— Ха-ха, очень смешно, — агрызнулася Кіра. — А теперь иди и пиши свой материал. Я-то свой уже закончила. А вот ты, если не поторопишься, статью сдать не успеешь. Будешь сидеть с победой, но без зарплаты, — скончыла яна, дэманстратыўна развёўшы рукамі.

Гэта сапраўды было так. У мяне пакуль не было ніякіх ідэй наконт майго артыкула. Зусім ніякіх. Я не ведаў, пра што пісаць, нават не ўяўляў. Таму хуценька развітаўся з Кірай, сказаўшы, што мой працоўны дзень скончыўся, і пайшоў з рэдакцыі. Спачатку хацеў ісці дадому, але потым перадумаў і накіраваўся да Нацыянальнай бібліятэкі.

Не, я не спадзяваўся знайсці на старонках кніг натхненне для напісання артыкула. Я дакладна ведаў рэжым працы бібліятэкі, таму што часта туды наведваўся, і памятаў, што сёння яна зачынена на санітарны дзень. Але я любіў пахадзіць па навакольным парку каля вадаёма, прысесці ў цені дрэў. Навокал было прыгожа, асабліва ў такія, як сёння, чэрвеньскія цёплыя і сонечныя дні.

І сёння я таксама накіраваўся туды. Я спадзяваўся, што, магчыма, там да мяне прыйдзе якая-небудзь думка, ідэя.

Я ішоў па сцежцы ўздоўж вадаёма, але раптам спыніўся, заўважыўшы дзяўчыну, што сядзела на адной з лавак. Не, я не памыліўся. Гэта на самай справе была, Настасся Берасцейская. Яна падняла галаву, і нашы позіркі сустрэліся. Дзяўчына ўсміхнулася мне. Я падышоў бліжэй, хацеў сесці побач, але чамусьці застаўся стаяць.

— А вы, — пачала размову Настасся, — тоже в библиотеку?

— Не, — паматаў галавой я, — сёння санітарны дзень. Але я часта сюды прыязджаю. Хаджу па парку, гляджу на ваду, дрэвы, будынак бібліятэкі…

Яна ўважліва слухала мяне, а потым адказала, таксама, як і я, па-беларуску:

— Тут вельмі прыгожа. Я і не ведала. Прыехала ў бібліятэку, але высветлілася, што сёння сандзень, і я вырашыла пахадзіць тут. А вы на сайце даведаліся ці памятаеце расклад?

— Памятаю. Я вельмі часта хаджу ў бібліятэку.

— Вы… сядайце, — запрасіла мяне Настасся. — Выбачайце мяне за маё дрэннае валоданне беларускай мовай…

— Дрэннае?! — здзіўлена перапытаў я і сеў побач з ёй на лаўку. — Вы цудоўна валодаеце беларускай мовай.

— І ўсё ж такі, у мяне няма ніякай практыкі. Я здзіўляюся такім людзям, як вы, якія ў паўсядзённым жыцці размаўляюць па-беларуску. Я была б вельмі ўдзячнай, калі б хто выпраўляў мае памылкі.

— Я мог бы, — пацінуў плячыма я. Настасся зноў усміхнулася.



— Я толькі зараз зразумела, што нават не ведаю, як ваша імя.

— Кастусь.

— Не ў гонар Каліноўскага? — пажартавала Настасся.

Было прыемна гэта пачуць, мне ніколі так не казалі.

— Не. Але я вельмі задаволены такім супадзеннем.

— А вы пра што ў газеце пішаце?

— Пра рознае: навіны, падзеі… людзей, жыццё… Заўсёды знаходзяцца тэмы. Іншы раз — у апошні момант. Але знаходзяцца. А зараз — няма. Заўтра трэба здаць артыкул, а я нават прыблізна не ведаю, пра што можна напісаць, — чамусьці паскардзіўся я, хоць ніколі і не дазваляў сабе скардзіцца, асабліва не вельмі знаёмым людзям.

Настасся паглядзела ўбок, нібы ў думках штосьці вырашала.

— А калі б вам у рукі трапіў сшытак часоў Першай Сусветнай вайны? Баявы дзённік салдата.

Я глядзеў на яе і не верыў.

— Адкуль? — спытаў я. — Адкуль трапіў?

— Ад мяне. Гэта наша сямейная рэліквія. Яна перадаецца з пакалення ў пакаленне. Калі-небудзь трэба будзе аддаць яе ў музей: я б хацела, каб людзі маглі пабачыць гэты дзённік. Але калі б вы напісалі артыкул, аб ім дазналася б яшчэ больш людзей. Я не ведаю, але мне чамусьці здаецца, што вы не будзеце хлусіць або прыдумляць штосьці, вы напішаце ўсё так, як ёсць на самай справе. Таму вы першы журналіст, якому я расказала пра дзённік. А яшчэ вам сапраўды трэба напісаць артыкул.

— Гэта проста немагчыма! — узрадавана ўсклікнуў я, ускочыўшы з лаўкі. — Неверагодна! Калі вы гаворыце сур'ёзна, вы — мая выратавальніца, — сказаў я, зноў прысеўшы.

— Ці гэта падобна на жарт? Хадземце, хадземце зараз жа! — Настасся паднялася і пацягнула мяне за сабой.

На вуліцы было спякотна, але ў Настассінай кватэры панавала прахалода. Дзяўчына прапанавала мне чай з пячэннем.

— Вы якое пячэнне любіце? — запыталася яна.

— Я?.. — перапытаў. — З макам.

— Выбачайце, у мяне няма з макам, — засмяялася Настасся. — Ёсць толькі з… з ізюмам.

— З разынкамі, — паправіў я. — Ізюм па-беларуску — разынкі.

Хоць яна сама папрасіла мяне выпраўляць яе памылкі, я адчуваў сябе няёмка. Няёмка было таксама ад таго, што яна звяртаецца да мяне на «вы», што дапамагае з артыкулам…

Калі чай быў наліты, а кубак пастаўлены на стол, Настасся знікла ў суседнім пакоі і вярнулася, трымаючы ў руках дзённік, паклала яго перада мной. Я акуратна разгарнуў сшытак і пачаў чытаць. У галаве самі сабой складваліся радкі будучага артыкула: «Мы добра памятаем подзвіг нашых суайчыннікаў падчас Другой Сусветнай вайны, але што мы ведаем аб Першай?» Артыкул будзе прымеркаваны да Дня Незалежнасці і змесціць у сабе апавяданне пра аўтара дзённіка і пра тое, як сшытак трапіў да мяне.

Уладальніца каштоўнага рарытэта сядзіць побач са мной і нават не здагадваецца, што сённяшні дзень стаў самым грандыёзным у маім жыцці.

***Алена МАРЦІНОВІЧ,***
***выпускніца СШ № 11, Мінск.***
***Малюнкі Аляксандры ДЗЕЖЫЦ***

# Сярэбраны век па-беларуску




Многія, асабліва ў юнацтве, пішуць вершы. Для кагосьці гэта робіцца важнай часткай жыцця, сапраўднай Творчасцю. І тады пачынае хваляваць пытанне: як паставяцца да тваіх твораў тыя, хто іх прачытае? Ці можна быць упэўненым, што твая вершаваная творчасць — сапраўднае мастацтва, а не пэцканне паперы?..

На прыступках лесвічкі пісьменніцкага майстэрства — развіццё ўласнага літаратурнага густу, якое нельга ўявіць без начытанасці. І ў дачыненні да паэзіі можна сказаць даволі катэгарычна: сучасную паэзію нельга ні разумець, ні, тым больш, пісаць, калі ты не знаёмы з такім значным культурным феноменам, як руская паэзія Сярэбранага веку, здабытак усіх трох усходнеславянскіх народаў — рускіх, беларусаў і ўкраінцаў. Культурны чалавек у адказ на пытанне: «Хто твае любімыя паэты?» — назаве адразу некалькіх аўтараў Сярэбранага веку. А выбіраць ёсць з каго, і чуйны да паэтычнага слова чытач абавязкова знойдзе найбольш блізкага менавіта яму паэта. Бо ў гэты час (храналагічныя рамкі Сярэбранага веку — ад 1890-х да 1920-х гадоў) узнікаюць новыя мастацкія метады (мадэрнізм, авангардызм), а ўнутры іх — шматлікія літаратурныя напрамкі. Усе яны абвяшчалі свае мастацкія прынцыпы, погляды на паэзію. Прадстаўнікі гэтых напрамкаў маглі быць ідэйнымі праціўнікамі — як Аляксандр Блок і Мікалай Гумілёў, — але нешта іх і аб’ядноўвала. Найперш — гэта імкненне да абнаўлення паэзіі, узмацнення яе выразных, выяўленчых магчымасцей.

Беларускія паэты часта звяртаюцца да перакладу твораў рускіх аўтараў — паэтаў той эпохі. Навошта такія пераклады, калі беларусы могуць пазнаёміцца з гэтай паэзіяй у арыгінале? На гэта пытанне можна даць адразу некалькі адказаў. З пункту гледжання паэта, паэтычны пераклад — самастойны і вельмі цікавы від творчасці. Звычайна паэты перакладаюць тыя творы і тых аўтараў, якія ім самім чымсьці блізкія. Паэт-перакладчык можа сказаць нешта сваё менавіта праз пераклад, а самі перакладныя вершы становяцца самастойнымі артэфактамі культуры. З пункту ж гледжання чытача, пераклад на блізкароднасныя мовы цікавы тым, што мы можам параўнаць два тэксты — арыгінальны і перакладны, убачыць «механізмы» гэтай таемнай дзейнасці і, нарэшце, пераканацца ў тым, што шэдэўры іншамоўнай літаратуры могуць гучаць і па-беларуску.

Паэтычны пераклад — гэта і школа паэтычнага майстэрства. Тут ёсць свае законы і сакрэты. Верш не перакладаецца даслоўна, але захоўваюцца ключавыя вобразы, вершаваны памер, характар рыфмоўкі. Прапаную некалькі сваіх перакладаў вершаў І. Аненскага, М. Валошына і В. Мандэльштама. Дарэчы, для мяне разуменне паэзіі пачалося менавіта са знаёмства з Сярэбраным векам…

***Алесь ДУБРОЎСКІ-САРОЧАНКАЎ***

*Інакенцій АНЕНСКІ*

## ПРЭЛЮДЫЯ
## (з «Трылісніку натоўпу»)

Жыццё не страшнае. Сваім бадзёрым шумам
Яно дае гарэць, дае свяціцца думам.
Трывожна без людзей і пуста на зямлі,
І кветкам холадна начамі ў хрусталі.
Але імгненні ёсць у нашым іcнаванні,
Калі душа цярпець не можа дакранання.
І я дрыжу між вас, дрыжу за свой спакой,
Бы свечкі полымя на скразняку рукой
Загарадзіўшы… Толькі ў гэты міг адзіны
Не руш мяне, бо я іду сваёй сцяжынай…
Адсутны позірк мой ты ціха запрыкмець
І ўсім вакол мяне не замінай шумець.
Так лепей. Праз мяне няхай глядзяць іх вочы:
Нябачным быць хачу ў сваёй самоце творчай.

*Иннокентий АННЕНСКИЙ*

ПРЕЛЮДИЯ

Я жизни не боюсь. Своим бодрящим шумом
Она дает гореть, дает светиться думам.
Тревога, а не мысль растет в безлюдной мгле,
И холодно цветам ночами в хрустале.
Но в праздности моей рассеяны мгновенья,
Когда мучительно душе прикосновенье,
И я дрожу средь вас, дрожу за свой покой,
Как спичку на ветру загородив рукой...
Пусть это только миг... В тот миг меня не трогай,
Я ощупью иду тогда своей дорогой...
Мой взгляд рассеянный в молчаньи примеметь
И не мешай другим вокруг меня шуметь.
Так лучше. Только бы меня не замечали
В тумане, может быть, и творческой печали.


*Малюнак Алёны ЛАРЫЁНАВАЙ*


*Вольга Праскаловіч, член рэдкалегіі часоpіса*

*ПАРАДА*

Пазбягайце пры перакладзе калькавання (адна з крыніц маўленчых памылак). У лінгвістычным значэнні калька (ад грэч. *calque* — адмысловая празрыстая папера для вырабу копій малюнкаў і пад.) абазначае слова або выраз, атрыманы шляхам літаральнага перакладу частак іншамоўнай адзінкі. Пакольківі няўдалыя і непатрэбныя калькі пашыраны ў маўленні двухмоўных асоб (білінгваў), яны часта пазбаўляюць мову яе натуральнасці і правільнасці. Гэта і паслужыла падставай для трапнага вобразнага вызначэння калькі як «шашаля мовы» (К. Цвірка). Надзвычай надзённая для нас парада Якуба Коласа «перад увядзеннем кожнага новага слова добра абшарыць кішэні свае памяці ці прыгадаць словы, створаныя паводле ўласцівых беларускай мове мадэляў».

***Максіміліян ВАЛОШЫН***

* * *

Фіялкі хваль і гіяцынты пены
Ля камянёў, што стынуць у вадзе.
Соль пахне кветкамі… Вось рэдкі дзень,
Калі не прагне сэрца нейкай змены,
А кожны міг прымае, быццам дар,
І п’е нагбом залатакудры твар,
Што развітальна свеціць цераз просінь.
Такія дні пад старасць дорыць восень…

***Максимилиан ВОЛОШИН***

* * *

Фиалки волн и гиацинты пены
Цветут на взморье около камней.
Цветами пахнет соль…
Один из дней,
Когда не жаждет сердце перемены
И не торопит преходящий миг,
Но пьет так жадно златокудрый лик
Янтарных солнц, просвеченный сквозь просинь.
Такие дни под старость дарит осень…

***Восіп МАНДЭЛЬШТАМ***

* * *

І мора, і Гамер… І не прыходзяць сны.
Я да сярэдзіны спіс караблёў адолеў.
Пусціліся шукаць якой таемнай долі
Армадай велічнаю Грэцыі сыны?

Як птушак чарада ў чужыя рубяжы, —
Галовы ўсіх цароў у пер’і боскай пены, —
Куды вы плывяце? Калі б не твар Алены,
Навошта Троя вам, ахейскія мужы?

І мора, і Гамер — усё жыве любоўю.
Каго ж мне слухаць тут? І вось Гамер маўчыць,
І мора чорнае пагрозліва шуміць
І з цяжкім грукатам імкнецца да ўзгалоўя.

***Осип МАНДЕЛЬШТАМ***

* * *

Бессонница. Гомер. Тугие паруса.
Я список кораблей прочел до середины:
Сей длинный выводок, сей поезд журавлиный,
Что над Элладою когда-то поднялся.

Как журавлиный клин в чужие рубежи —
На головах царей божественная пена —
Куда плывете вы? Когда бы не Елена,
Что Троя вам одна, ахейские мужи?

И море, и Гомер — все движется любовью.
Кого же слушать мне? И вот Гомер молчит,
И море черное, витийствуя, шумит
И с тяжким грохотом подходит к изголовью.



***Хатняе практыкаванне:*** перакладзі на беларускую мову бліжэйшы з тых вершаў, што зададуць вучыць на памяць на ўроку рускай літаратуры. Мяняем скан старонкі дзённіка з добрай адзнакай (і паметкай «За пераклад») на прыз часопіса «Бярозка» — кубачак для самай смачнай у свеце гарбаты!

# Школа гонару, або Як стаць сапраўдным шляхціцам


*Рагнеда Юргель*

***Спадарства! Вядома, што, уяўляючы жыццё сярэдняга шляхціца, некаторыя маладыя людзі дапускаюць шэраг памылак і недакладнасцей. Тым часам, пісьменнікі XIX стагоддзя пакінулі для нашчадкаў творы, у якіх дэталёва расказваецца пра жыццё, характар і асаблівасці выхавання згаданых асоб. На аснове звестак, прыведзеных панам Адамам Міцкевічам, панам Янам Баршчэўскім і панам Вінцэнтам Дуніным-Марцінкевічам з'явіліся парады, якія дапамогуць стаць вартымі тытулу сапраўднага шляхціца.***

***Коратка пра важнасць радаводу.*** Вельмі добра, калі вашы продкі ўжо паспелі праславіць імя і герб на палях бітваў і пасяджэннях соймаў. Тады вы адразу робіцеся нашчадкам знакамітай фаміліі. У маленстве вам, праўда, давядзецца папацець, завучваючы на памяць імёны і біяграфіі продкаў да дваццатага калена, але чым больш старая кніга захоўвае запіс вашага прозвішча, тым большы ўплыў вы будзеце мець у свеце. Для надання асаблівай важкасці сваёй персоне няблага атрымаць чын хаця б асэсара і дажыць да сталага ўзросту. Яркі прыклад — пан Падкаморы («Пан Тадэвуш»), якога заўсёды прапускалі на ганаровае месца першым.

Належаць да сярэдняй шляхты таксама няблага. І няхай ваш род не бярэ пачатак ад першых Альгердавічаў, галоўнае, што ён шляхецкі. На выпадак «разбору шляхты» вам будзе карысна трымаць пад рукой выпіску з любой аўтарытэтнай гербавай кнігі.

***Імя.*** Тут усё залежыць ад волі бацькоў. Але калі ў сям'і быў знакаміты продак, рыхтуйцеся, што вас назавуць у яго гонар. Таксама ёсць вялікі шанец атрымаць імя якога-небудзь праслаўленага дзеяча аддаленых і не вельмі часоў, асабліва калі вашы бацькі актыўна ўдзельнічаюць у палітычным жыцці. Так, напрыклад, здарылася з панам Тадэвушам Сапліцам у паэме Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш».

***Вучоба.*** Навука павінна займаць у вашым жыцці пачэснае месца. Спадары, якія займаюцца толькі сабакамі і паляваннем, не выклікаюць павагі нават у такіх лаяльных суседзяў, як шляхціц Завальня. Рыхтуйцеся, што вас выправяць вучыцца ў вялікі горад, хутчэй за ўсё — Пецярбург. Праз колькі год вернецеся дамоў з багажом ведаў і паводзінамі свецкага чалавека. Потым родныя сталага веку будуць не адну ноч ламаць галаву над антычнымі міфамі (за імі звяртацца да спадара Янкі, пляменніка

## НАМАЛЮЙ ШЛЯХЦІЦА



***Праект мастака Аляксандра КАРШАКЕВІЧА***

шляхціца Завальні), а сяляне — дзівіцца вашым гарадскім закідам.

***Гонар.*** Памятайце, няма для шляхціца нічога страшнейшага, чым абраза. Гэта можа быць і дзеянне, і слова. Ніколі не даруйце нахабніку! Не чакайце вырашэння акалічнасцей, не шукайце прычыны, адразу плаціце ворагу яго ж манетай і выклікайце на паядынак. Лепей за ўсё на пісталетах. Словы, якімі вас будуць супакойваць сябры, сведкі і проста добрыя радцы, смела прапускайце міма вушэй. Асабліва страшнай лічыцца знявага вашай саслоўнай прыналежнасці.

Але нават калі час расплаты прызначаны, паядынак можа і не адбыцца. Прычыны гэтага наступныя: разумны і кемлівы чалавек, як, напрыклад, пан Войскі, вырашае сітуацыю дзякуючы арыгінальнай выдумцы альбо справу разбірае вышэйстаячая асоба, пажадана, зацікаўленая (асабліва матэрыяльна) у яе мірным вырашэнні. Апошняе яскрава прасочваецца на прыкладзе пінскіх шляхціцаў Цюхай-Ліпскага і Пратасавіцкага.

Што датычыцца соймаў і шляхецкіх збораў, то на іх не будзе лішкам захапіць шаблю ці доўбню, бо панамі Дабрынскімі даказана, што гэта самыя дзейсныя сродкі пераканання падчас спрэчкі.

***Колькі слоў пра сялібу і гаспадарку.*** Гародчык, што б там ні гаварылі зайздроснікі, рэч патрэбная, а таму пажадана, каб ля вашай сялібы раскінуўся гародзік-садзік. Ён пазбавіць вас ад растраты грошай, дасць занятак і будзе радаваць вока. Да таго ж, прынамсі, літаратурай даказана, што некаторыя выгадныя знаёмствы паненкі і пана адбываюцца менавіта сярод град агуркоў ці іншай зеляніны. Ндрэнна мець каля дома які-небудзь высокі зараснік, дзе дваровы люд будзе хавацца ад вашага гневу. Не перашкодзіць ён і ў час наездаў, калі і самой шляхце можа спатрэбіцца сховішча. Спрактыкаваўшыся ў адступленні па методзе спадара Вознага, вы зможаце пазбегнуць многіх непрыемных момантаў.

***Бацькі і дзеці.*** З бацькамі трэба быць асабліва асцярожнымі. Гэта немаладыя людзі старасвецкага выхавання, аднак выхоўваць яны будуць вас. Пярэчыць ім няма сэнсу, бо абавязкова пакрыўдзяцца, а пераканаць іх няма ніводнай магчымасці. Асабліва гаротнае становішча ў паненак: яны, звычайна, зусім пазбаўлены самастойнасці. З гэтай прычыны частымі бываюць непаразуменні з вяселлем: ніяк не ўцямяць дурніцы, што іх, сямнаццацігадовых, выдаюць замуж за чалавека, размянялага шосты дзясятак, толькі з-за клопату пра шчаслівую будучыню.

У любым выпадку вам трэба памятаць, што бацькі заўсёды жадаюць вам толькі дабра, няважна, супадаюць у вас уяўленні

па гэтым пытанні ці не. А таму, хто жадае вам дабра, пярэчыць нельга. Лепш потым паціху зрабіць выкананне бацькоўскай задумы немагчымым. (Для тых, хто ўжо паспеў адчуць цяжар бацькоўскага клопату, аўтар гэтых нататак дае спасылку на твор «Пінская шляхта» пана Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча.)

***Адносіны да сялян.*** «Сяляне — таксама людзі, толькі без шляхецкага звання», — кажа нам літаратура. Быць злосным панам не толькі нямодна, але і небяспечна. Па-першае, пакрыўджаныя могуць пусціць на маёнтак чырвонага пеўня, па-другое, ваш дрэнны характар абавязкова стане мясцовым паданнем, а застацца ў народнай памяці пачварай і самадурам наўрад ці прыемна. Лепш браць прыклад са шляхціца Завальні: ён і традыцый не змяняў, і сярод людзей лічыўся чалавекам добрым і памяркоўным. Дапамагаў у галодную часіну. Любіў пагаманіць пра жыццё. Падтрымліваў маральнае выхаванне і набожнасць. Пан Тадэвуш Сапліца пайшоў далей: адмяніў прыгоннае права ўвогуле, даўшы сялянам шляхецтва. Апошні прыклад асабліва прагрэсіўны, і таму менш прывабны. У ідэале вашы адносіны з сялянамі павінны будавацца па прынцыпе: пан — добры бацька, сяляне — паслухмяныя дзеці (гл. папярэдні пункт «Бацькі і дзеці»).

Тым не менш, добрыя адносіны да прыгонных зусім не перашкаджаюць панам праехаць па іх пожнях і нівах, калі заяц уцякае тудэю ад хартоў. Па словах паляўнічых, дзясятак-другі коннікаў і сабакі ніякім чынам не ўплываюць на колькасць ураджаю.

***Яшчэ некалькі цікавых традыцый.*** Дажыўшы да сталага веку, вам карысна будзе згадваць свае маладыя гады з асаблівай пяшчотай і так, каб моладзь зайздросціла вашай зухаватасці ў мінулыя часы. Успамінайце паядынкі, наезды, каханне, гулянкі, пасяджэнні соймаў. Нядрэнна, калі ў вас будзе доказ слаўнай мінуўшчыны — рэч тыпу Сцізорыка пана Гервазы. Згадвайце цікавыя і павучальныя выпадкі са свайго жыцця і жыцця знаёмых, а калі вашы аповеды па нейкай прычыне абарвуць, то заўсёды вяртайцеся да іх у любы зручны момант. Вопыт пана Войскага паказвае, што ў гэтай справе не толькі талент патрэбен, але і вялікая цярплівасць напалам з упартасцю. Апошняя спатрэбіцца і пры выкананні старых клятваў. Кроўная помста і трыманне сваіх абяцанняў заўсёды вылучалі сапраўднага шляхціца.

***Парада на будучыню.*** Вось у вас ужо ёсць гербавая папера з пячаткай, пачуццё гонару, уменне кіраваць гаспадаркай. Вы ўжо не падпісваеце дакументы крыжыкам і маеце свой погляд на падзеі свету. Вы, інакш кажучы, гатовыя насіць званне шляхціца. Але для таго, каб стаць ім па-сапраўднаму, патрэбна набыць непаўторнае дзівацтва. Хтосьці працягвае наглядаць за замкам, калі ад яго засталіся толькі руіны, хтосьці пры размове заўсёды памяне нядобрым словам прусакоў, якія некалі нанеслі яму крыўду, а ёсць і такія, што жыцця не ўяўляюць без расказанай на ноч казкі ці легенды, або ніяк не могуць пачаць размову без прыказкі. Таму і вы, спадары, паклапаціцеся пра асабістае дзівацтва, невялікае і бясшкоднае.

***Заканчэнне.*** У нататкі, якія вы, паважаныя спадары, мелі ласку прачытаць, увайшлі толькі некаторыя бакі жыцця шляхты XIX стагоддзя. Аўтар іх спадзяецца, што яго праца дапамагла вам набыць карысныя веды і весела правесці час. Больш грунтоўныя парады вы можаце прачытаць у пісьменнікаў той эпохі, а самым дзейсным сродкам вырашыць усе спрэчныя пытанні па тагачасным жыцці з’яўляецца машына часу. Як кажа народная мудрасць, лепш адзін раз убачыць, чым дзесяць — пачуць.

Толькі, калі ласка, не сварыцеся з панам Гервазам!

***У рубрыку «Бел. літ.» тэрмінова патрабуюцца самыя дасціпныя разборкі твораў школьнай праграмы ў выкананні настаўнікаў і вучняў.***

# Калонка прывіда

*Анонс*




Здарылася так, што ў леташнім верасні аднаму з нашых журналістаў было даручана здзейсніць паездку да старой сядзібы на поўначы Беларусі. На яе тэрыторыі знайшлі ход у падземную бібліятэку. Акрыленыя знаходкай археолагі дазволілі нашаму супрацоўніку ўвайсці ў сутарэнне адным з першых і сфатаграфаваць усё, як яно было. Той, зняўшы першы кадр, запытаў раптам: «Хто тут у вас?» «Дзе?» — здзівіліся археолагі, аглядаючы пустую залу. На здымку ж, у самай глыбіні «памяшкання», сярод зацягнутых павуціннем паліц, за пісьмовым сталом праглядаўся скурчаны сілуэт чалавека, захопленага чытаннем нейкага фаліянта. Цела злёгку фасфарыцыравала ў паўзмроку і здавалася сатканым з затхлага паветра бібліятэкі.

«Фенаменальна!» — загулі гісторыкі. А прывідны гаспадар сутарэння адарваў позірк ад кнігі, спужана зірнуў на людзей і знік з экрана.

Навукоўцы адразу ўцямілі, што здарэнне звязана са збоем праграмы лічбавай тэхнікі, і паспяшаліся працягнуць працу. Наш супрацоўнік зрабіў яшчэ колькі здымкаў, узяў інтэрв'ю ў кіраўніка групы і накіраваўся ў гатэль. Стомлены, заснуў, ледзь толькі дабраўся да ложка.

Прачнуўся пасярод ночы ад яркага святла месяца і ўбачыў учарашняга незнаёмца. Той сядзеў на адзіным стуле ў нумары і тужліва пазіраў у прастору.



— Добрая ноч! — павітаўся журналіст, бо прызвычаіўся быць ветлівым, што б ні было. — Чым магу быць карысны?

— Добрая ноч! — глуха адазваўся госць. — Вы мяне ўбачылі — і цяпер я вымушаны месячнымі начамі з'яўляцца да вас. У прывідаў таксама бываюць бязглуздыя традыцыі.

— Вельмі прыемна, — мармытнуў журналіст. — Вы не ў курсе, якая гадзіна?

— На ратушы прабіла тры. А вы не ведаеце, які цяпер год?

— Дзве тысячы чатырнаццаты.

— Эх-хехее… — уздыхнуў прывід. — Як бяжыць час. Гэта чытанне так захоплівае! Я і не заўважыў…

— Разумею, — адказаў наш супрацоўнік. — Дарэчы, працую там, дзе пішуць.

— Як вам пашанцавала! — прывід застагнаў. — Я б хацеў быць там, дзе па-ранейшаму цэніцца слова. Я ж быў ахоўнікам самай дастойнай бібліятэкі Еўропы! Цяпер калі мяне бачаць, то пужаюцца.

— Не адчайвайцеся, — усміхнуўся журналіст. Ён канчаткова прачнуўся і ў яго галаву прыйшла адна ідэя.

Так, залічаны на пасаду начнога вартаўніка, у рэдакцыі «Бярозкі» з'явіўся прывід. Ён вычытвае кожны нумар, абмяркоўвае з рэдкалегіяй планы і нават водзіць сяброўства з камп'ютарам галоўрэда. Сяброўства гэта так далёка зайшло, што па начах Аркашка (так яго назвала прыбіральшчыца, пераблытаўшы з начным кур'ерам) дыктуе разумнай тэхніцы свае думкі. Аднойчы яго занатоўкі трапілі на вочы галоўрэда.

— А ці не хочаце паспрабаваць сябе ў журналістыцы?

— Канешне!

Кажучы прасцей: з наступнага нумара чытайце на гэтай старонцы «прывідныя» думкі.

***Партрэт Аркашы намалявала Алёна ЛАРЫЁНАВА***



# «Прачытаўшы Вашу кнігу, пашыла яму новы гарнітур, павязала гальштук і вочы паднавіла...»

***Літаратурны музей Максіма Багдановіча прадстаўляе***



Цукарніца (пачатак XX ст.). Належала сям'і Кунцэвіч Веры Іванаўны, стрыечнай сястры Максіма Багдановіча.





Самавар (канец XIX ст.). Належаў Багдановіч Магдаліне Ягораўне, цётцы Максіма Багдановіча. Ад яе перайшоў у спадчыну сям'і Кунцэвічаў.



Статуэтка-жабяня (да 1841 г.). Належала паэту Міхаілу Лермантаву. Перададзена ў дар музею сваяком Максіма Багдановіча А. Я. Бараховічам.



Зажым для паперы (канец XIX — пачатак XX стст.). З металу жоўтага колеру, з раслінным арнаментам (два лісткі). Належаў сям'і Дзябольскіх. Дзіядор Дзябольскі вучыўся з Максімам Багдановічам у Яраслаўскай мужчынскай гімназіі.

Цацка-мядзведзік «Мішка Васенька» (1-я палова XX ст.). У 1914 годзе гэтага лялечнага мішку Максім Багдановіч падараваў сваёй двухгадовай пляменніцы Наташы Кунцэвіч. Па яе ўспамінах мішка быў плюшавы, называла яна яго «мой Васенька». У лісце да бібліёграфа паэта Ніны Ватацы (ад 14.03.1976 г.) Наталля Кунцэвіч пісала: «...Гадоў 20 таму назад на ім (мішку) былі малінавыя запарожскія шаравары і касаваротка. Але ўсё гэта літаральна струхнела. Я, калі мяняла яму шкуру (...абшыла фланельнымі штанамі), касцюм не мяняла. ...Прачытаўшы Вашу кнігу, пашыла яму новы гарнітур, павязала гальштук і вочы паднавіла...» («Шляхі», с. 27—28). Цікава: першыя плюшавыя мішкі, паводле публікацыі часопіса «Kobeta i zicie» (1986), з'явіліся ў Еўропе ў пачатку XX стагоддзя. Іх у 1902—1903 гадах выпускала фірма пані Штэйф у Віртэнбергіі (Германія).

***Дзе гэта можна ўбачыць: Мінск, вуліца Максіма Багдановіча, 7а.***

*Напішы як Маргарыта Дзяхцяр – і станеш аўтарам калонкі!*

# Як чытаць чужыя лісты


Маргарыта Дзяхцяр

Бываюць такія кнігі, якія хочацца чытаць, не адрываючыся. Бываюць такія, якія хочацца выкінуць у вогнішча дзесьці на сярэдзіне чытання. А бывае нешта эклектычнае: зачытваешся, потым хочаш спаліць, але не паліш, бо ведаеш, што будзеш потым шкадаваць. З «Палімпсэстам» Алеся Аркуша ў мяне адбылося апошняе.

Я не ведала, як разумець кнігу. Яна напісана ў незвычайнай форме: ёсць там і запісы з дзённіка, і лісты сябрам і ад сяброў, і развагі з думкамі… Здаецца, што і чытаць няма калі: толькі ўбачыла радок — пачынаю задавацца пытаннямі: «Чаму?» і «Як?». Адмысловым сітуацыям — адмысловыя людзі. А гэтыя людзі пішуць адмысловыя лісты...

Не адкрыю Амерыку, калі скажу, што чытаць чужыя лісты вельмі дрэнна, але нешта ў гэтым ёсць! Сапраўды. Цікава было чытаць нават перапіску галоўнага героя з армейскім сябрам. Адчувала сябе агентам ЦРУ, якому дазволілі пачытаць нешта накшталт сакрэтнага архіву. Чамусьці думала пра свайго тату. А можа, ён таксама пісаў нешта такое, можа, нават дасылаў каму-небудзь тэксты песень? «Палімпсэст» натхняе на рэфлексію, зваротную сувязь. Часам кніга занадта рамантычная, але надзённасцю прапітана. Аўтар згадвае, што «ў нашым ваўчыным свеце не пражывеш без дыплёмнай кніжачкі». Разумееш, што так яно і ёсць, пачынаеш думаць пра будучыню, пра гэтую «кніжачку», пра «ваўчыны свет» і тое, як здзейсніць які-небудзь подзвіг.

Адна з галоўных тэм у рамане — музыка. Як яна нараджаецца, кім выконваецца, дзе можна набыць кружэлкі і з кім паслухаць. Была б я дарослай, упэўнена, што перад вачыма праляцела б усё жыццё, успомнілася ўсё, што забылася. І тады б зразумела, што меў на ўвазе аўтар, калі сказаў, што «навакольны свет дзеліцца не на чорны і белы, а на той, які мне цікавы і які нецікавы». І высветлілася б: жыццё прасцей, чым мы яго сабе ўяўляем.

Дык пра што кніга? І чаму «Палімпсэст»? Кніга пра ўсё, як вялізная энцыклапедыя. Кніга пра жыццё, пра тое, што цікавіць усіх. Ніколі і ўявіць не магла, што наша жыццё такое насычанае. «Палімпсэст» — гэта калі пішуць новы рукапіс на старым тэксце, новае жыццё на пражытым. Можна змяніць усё, што пажадаеш, пазбавіцца таго, што перашкаджае. Акрамя галоўнага героя, напэўна. Добрая рэч «Палімпсэст», але і дрэнная адначасова: плямы ад старога даволі часта не сыходзяць.



Напішы як Ксенія Вядзмедзь — і станеш аўтарам калонкі!



*Ксенія Вядзмедзь*
*11 клас, гімназія № 61,*
*Мінск*

# Маленькі цуд

Памятаю, як упершыню ўбачыла Лэсі падчас летніх канікул, калі адпачывала на дачы ў бабулі. Дзед прывёз тады з горада маленькага сабаку. Па яго словах, шчаня выглядала няшчасным, а ўбачыла дзядулю — і прывязалася да яго, не даючы ступіць ні кроку. Што тут зробіш — трэба забіраць дадому, парадаваць унучку. І я сапраўды была шчаслівая. Лэсі выглядаў як маленькі цуд: поўсць белая, мяккая, а носік — чарнейшы за ноч. І вушкі былі незвычайнымі: па дзве ярка-рыжыя пляміны ў цэнтры кожнага — быццам два сонейкі. Мой дзед не памыліўся ў сваім рашэнні — Лэсі адразу спадабаўся і мне, і бабулі. Ён стаў нам сапраўдным сябрам на доўгія гады.

Навіна пра тое, што ў нашай хаце з'явіўся новы жыхар, разляцелася вельмі хутка. З Лэсі прыходзілі пагуляць нават з суседніх вёсак. З гэтага часу дом заўсёды быў напоўнены, паўсюль чуліся дзіцячы і дарослы смех ды брэх нашага Лэсі. Цудоўны гэта быў час. Сабака хутка прыжыўся і стаў сапраўдным членам сям'і.



Я прыязджала да бабулі на лета некалькі гадоў запар, і першае, пра што мне кожны раз хацелася даведацца, — як там ужо вялікі і дужы, але ўсё роўна мой маленькі Лэсі. Але я расла, маё жыццё мянялася, і аднаго разу, калі зноў набліжаліся канікулы, у мяне не было ніякага жадання ехаць да бабулі з дзедам.

Аднойчы раніцай я атрымала жудасную навіну: Лэсі хварэе. Ужо два тыдні. Я кінулася збіраць рэчы, каб хутчэй дабрацца да вёскі. Прыехаўшы, убачыла Лэсі — мужнага, моцнага духам героя, які змагаўся з абставінамі, як толькі мог. Падышла да яго, пастарэлага, хворага. Сабака не бачыў мяне два гады, але пазнаў. Паспрабаваў устаць — сілы не дазволілі. На вачах яго з'явіліся слёзы. Так сорамна мне яшчэ ніколі не было. Я адчула погляд бабулі: дакорлівы, але і спачувальны.

Праз тры дні Лэсі памёр. Увесь гэты час мы былі разам: я, бабуля, дзед і наш герой. Думкі пра яго суправаджаюцца толькі светлым сумам, а памяць — толькі шчаслівымі падзеямі. Гэты сабака перавярнуў маё жыццё, напоўніў яго радасцю і натхненнем. І нават праз столькі гадоў у маім сэрцы ён застаецца маленькім цудам. Маім Лэсі.

*Напішы як Уладзіслаў Труханаў – і станеш аўтарам калонкі!*

# Моўныя эксперыменты



*Уладзіслаў Труханаў*
*10 клас, сярэдняя школа № 1, Докшыцы*

Ці ёсць сярод вашых сяброў тыя, хто карыстаецца беларускай мовай паўсядзённа, а не толькі на школьных занятках? У мяне такія знаёмыя ёсць, і я доўгі час ім зайздросціў, бо думаў, што сам так не змагу. Але вырашыў: «Буду спрабаваць! Прынамсі, тыдзень буду размаўляць толькі па-беларуску!»

Гонар падказваў: абяцанкі трэба выконваць. У панядзелак зранку мо з паўгадзіны блытаўся ў словах, потым пайшло. Першымі, хто пачуў «новага мяне», былі бацькі. Яны невельмі здзівіліся, бо дома я часам карыстаўся роднай мовай, але хвілін па пяць, не болей, пра што яны мне і нагадалі. І гэтыя іх словы сталі для мяне ўжо другім выклікам. Вера мая ў тое, што змагу, рабілася ўсё мацнейшай. У школе на кожным перапынку я размаўляў толькі па-беларуску, што, як і чакалася, выклікала ў маіх школьных сяброў розныя эмоцыі і ўражанні: адны падтрымалі — раблю, маўляў, добрую справу, іншыя, наадварот, глядзелі ў мой бок з непаразуменнем. Я радаваўся, што другіх аказалася значна меней.

Першай, хто ацаніў мой моўны эксперымент, была настаўніца беларускай мовы. Яна здалёк пачула, як я размаўляю з сябрамі, і натхніла працягваць гэтую справу. Так пачаўся тыдзень майго беларускамоўнага жыцця. На трэці дзень школьных сяброў было не здівіць, хоць у горадзе я працягваў лавіць зацікаўленыя позіркі. Вялізныя здзіўленыя вочы прадаўцоў з супермаркета без смеху не ўспамінаюцца. Некаторыя сябры і дзяўчына спрабавалі карыстацца беларускай мовай разам са мной, гэта ў іх часам не вельмі выходзіла, але я ўдзячны ім нават за спробы.

Яшчэ ў першую ноч таго тыдня я пачаў думаць над прамежкавымі вынікамі свайго эксперымента. Можа, тыя хлопцы і дзяўчаты мелі рацыю: гэта «паказуха»? Але не з мэтай набыць танны аўтарытэт, дакладна. Хутчэй, гэта «рэклама» беларускага ладу жыцця, у якім ніхто не цураецца роднай мовы і не здзіўляецца, пачуўшы яе. Я паказаў усім, каго сустрэў на тым тыдні, што калі я карыстаюся беларускай мовай, дык застаюся сучасным гарадскім хлопцам, а не раблюся якімсьці «простым» або здаюся некаму вяскоўцам. Скончыўшы эксперымент (які лепш назваць пераходам, бо я пабачыў, што магу, а раз магу, значыць, буду), я прыйшоў да сумнай высновы: шмат хто яшчэ лічыць, што беларуская мова жыве толькі ў беларускіх вёсачках, а ў гарадах ёй няма месца. На жаль, такія думкі наведваюць нават тых, хто шкадуе родную мову і мог бы за яе заступіцца, але чамусьці не робіць гэтага. Менавіта для такіх я і рабіў сваю справу, якая з цягам часу ператварылася ў лад майго жыцця. Я карыстаўся роднай мовай, прымаючы выклік асяроддзя, карыстаюся ёю цяпер, даючы прыклад іншым, і буду карыстацца далей — бо гэта мая родная мова, дык чаму б мне на ёй не размаўляць.


Яўген Бурко

*Напішы як Яўген Бурко – і станеш аўтарам калонкі!*

# Гэта магчыма!

Аднойчы я глядзеў са сваім бацькам тэлетрансляцыю футбольнага матча «БАТЭ» Барысаў — «Дэбрэцэн. Гэта быў другі паядынак, у якім пасля першага тайма наша каманда прайгравала з лікам 2:1 па суме дзвюх сустрэч. Барысаўчане гулялі дома, для перамогі неабходна было забіць два мячы. Я вельмі верыў у нашу каманду, але тата не падзяляў такі пункт гледжання. «Нашы нічога ўжо не змогуць зрабіць», — казаў ён. Пачаўся другі тайм, у сярэдзіне якога нашы забілі мяч. Да перамогі заставаўся адзін крок. Я перажываў за нашых, а тата па-ранейшаму не прымаў майго меркавання, схіляючыся да думкі «усё роўна мы прайграем». Але я бачыў, што ён таксама балеее за нашу каманду. Хутчэй за ўсё, у ім адбывалася такая ж барацьба, як і на полі. Матч трымаў у напружанні да самага канца. Здавалася, што ўсё скончана, але тут Сяргей Крывец забівае мяч у вароты праціўніка. І я пераконваюся: немагчымае — магчыма!

Вельмі часта мы, беларускія заўзятары, балеючы за сваю каманду, перад пачаткам спаборніцтваў ловім сябе на думцы: маўляў, не атрымаецца ў «нашых» сёння перамагчы ці хаця б паказаць годны вынік. І самае цікавае: у большасці выпадкаў згаджаемся з гэтай думкай. Нам прасцей сказаць, што нашы ў чарговы раз прайграюць, а мінулая перамога — выпадковасць. Калі сапраўды насцігае няўдача, то патоку адмоўных і абыякавых выказванняў няма мяжы. Я заўважыў, што мы нават адчуваем нейкую асалоду ад таго, што мелі рацыю. Гэтыя паражэнні з'яўляюцца для нас нібыта крыніцай, якая дазваляе апраўдваць нашы няўдачы не толькі ў спорце, але і ў іншых сферах нашага жыцця.

Усё гэта ўкараняе ўпэўненасць, што мы не здольныя прыцягнуць поспех на свой бок.

Безумоўна, спорт у беларускім грамадстве — нешта большае, чым проста спаборніцтвы, і паражэнне ўспрымаецца вельмі асабіста. Але тут кожнаму неабходна зразумець, што адмоўны вынік — гэта таксама вынік, і ў любым выпадку інтэнсіўная праца над памылкамі і ўдасканальваннем навыкаў прывядзе (ужо прыводзіць!) да добрых вынікаў і перамог. За гэтымі словамі стаяць факты: перамогі нашых спартсменаў на Алімпіядзе, выступленне зборнай на Чэмпіянаце свету па хакеі, поспехі ў атлетыцы, веславанні, гімнастыцы, плаванні. Два нашых футбольных клуба прайшлі ў вядучыя лігі Еўропы. І галоўнае: мы ўжо дэманструем стабільнасць.

Усё гэта паказвае, што мы можам браць новыя вяршыні. Вельмі хочацца верыць у тое, што ў гэтай барацьбе стэрэатыпаў і меркаванняў пераможа той бок, які не дазволіць у будучым схіляцца толькі да горшага выніку і сумнявацца да канца ў поспеху нашых спартсменаў. Бок, які будзе захоўваць веру да апошніх хвілін.

Балейце за нашых і верце ў іх (і сябе!) да канца!

*Напішы як Валерыя Радунь – і станеш аўтарам калонкі!*

# Не ствары з сябе куміра



*Валерыя Радунь*



Часам думаецца, што ў запаведзі «не сатвары сабе куміра» ёсць вельмі практычны і даволі жорсткі бок. Яна нібы правіла жыццёвай бяспекі — не зачароўвайся, каб не расчаравацца. Правіла, парушэнне якога часам адчувальна б'е пад дых. Правіла, выкананне якога зберажэ ад болю.

Прынамсі, зачароўвацца людзьмі ўвогуле не варта, бо каму падабаецца, калі любяць-паважаюць не цябе, а нейкі выдуманы ідэальны вобраз таго, хто не забываецца мыць за сабою посуд і ніколі не раскідвае вопратку па пакоі?.. Але я пра іншае.

Што, напрыклад, калі ты сам стаў для сябе кумірам?

Вельмі часта я сустракаю артыкулы дарослых і вельмі разумных людзей-псіхолагаў аб «трагедыі маладога пакалення» — тых, каму зараз 18 і крыху болей. Артыкулы гэтыя сцвярджаюць: праблемы прадстаўнікоў адзначанага пакалення грунтуюцца на тым, што ў дзяцінстве ім бясконца паўтаралі, якія яны асаблівыя. Што ў гэтым дрэннага, спытаеце вы? Бо ці можа быць дрэнным жаданне стаць асаблівым? Нічога, на першы погляд, дрэннага. Апрача таго, што дзеці гэтыя да 20 год верылі, што яны асаблівыя, што ў іх жыццё і кар'ера будуць асаблівымі... Але вось бяда — ніхто не расказаў ім, што асаблівага проста і хутка не бывае, што асаблівасць патрабуе працы.

Я добра памятаю адну нашу вельмі маладую і вельмі амбіцыйную выкладчыцу. Яна з болем, горычу і злосцю гаварыла нам, студэнтам-перакладчыкам: «У вас няма будучыні! Вы ніколі не знойдзеце працу!». А потым высветлілася, што ўвесь іх курс марыў пра ААН, складаныя заданні, дарагія касцюмы і вырашэнне лёсаў свету...

Што ж тады рабіць? Забараніць сабе марыць? Пачаць лічыць сябе сярэднім ці ўвогуле горшым за ўсіх?

Ад такіх думак ёсць адна вельмі добрая прышчэпка — ведаць сябе. Ведаць, што дакладна ты сапраўды можаш, што ў цябе атрымліваецца добра. Або паверыць, што ты сапраўды асаблівы. Што значыць — працаваць над сабой і марай.



*Напішы як Улад Бярозкін – і станеш аўтарам калонкі!*

# Натхненне па замове: СРОДКІ

На днях задалі цяжкае заданне — напісаць сачыненне пра мой любімы верш з любоўнай лірыкі. Гэта я зараз думаю: жэсць! А тады — ну і што, я ж спец! Наведваю гурток журналістыкі.

Як я мучыўся з гэтымі радочкамі! Два дні думаў толькі пра няшчаснае каханне. Вядома, сачыненне напісаў, застаўся сабой задаволены (настаўніца — не ведаю, яшчэ не выстаўляла адзнакі). Але прыйшлося ўспомніць спосабы, каб галава больш актыўна выдавала крэатыў. Зусім не пісалася.

Калі рыхтаваўся да алімпіяды па беларускай мове, часта карыстаўся энергетыкамі. Я люблю, каб у мяне ўсё атрымлівалася якасна, каб можна было ганарыцца сабой. Але пасля алімпіяды на працягу тыдня ці двух мазгі пачыналі здаваць. Кожнае слова нават для простага практыкавання выводзілася з цяжкасцю, не кажучы ўжо пра задачы па фізіцы і геаметрыі.

Я — не батан, але перамагчы сябе, «узяць вышыню» вельмі хацелася. Вось і пачыналася ў мяне пятніца з бутэлькі burn'а або red bull'а. У прынцыпе, я не заўважаў негатыўных наступстваў. Мяне не турбавалі ні сэрца, ні зрок, ні псіхіка. Да вечара дзеянне энергетыка канчалася, і я, як кожны дзень, клаўся спаць (а не валіўся з ног). Спаў не больш, чым звычайна. Магчыма, мне гэтая хімія сыходзіла з рук, дакладней, з нервовай сістэмы, з-за маёй маладосці і выдатнага здароўя.

На маю думку, энергетык у асцярожных дозах здароваму хлопцу не пашкодзіць. Толькі ў вельмі асцярожных. Мне ж яшчэ ў ВНУ вучыцца. І здароўе трэба берагчы. Таму я перастаў песціцца энергетыкамі. Перайшоў на стымулятары-лайт: каву і цукар. Фізічна я не адчуваю прыліву актыўнасці. Але становіцца лягчэй прымушаць сябе думаць і канцэнтравацца. Вялікі недахоп у іх бяскрыўднасці. Быццам бы моцнай кавай можна запраўляцца хоць кожны дзень. Але ж я не хачу вугры і жоўтыя зубы. Цьфу. Жудасць. Павінен прызнаць, гэтыя міні-энергетыкі дапамагаюць мала.

Можна вучыцца пры адчыненай фортцы. Але толькі калі не чуваць музыкі. Пад музыку добра марыць — мераць фантазіяй час і прастору. А вось прымушаць мазгі прабіваць пэўны шлях лепш у цішыні, хоць бы адноснай. Што датычыцца сачынення, то гэта робіцца так: глядзіш навокал, заўважаеш элементы эстэтыкі, потым пачынаеш думаць пра сам прадмет сачынення. І паступова падбіраецца якая-небудзь разумная думка, з якой выходзіць фраза, потым яшчэ і яшчэ. Цяжка нараджаецца шэдэўр.

Ведаю, што адзін слухае музыку, другі ідзе ў кіно, трэці разглядае малюнкі. Кажуць, эфектыўна. У мяне да гэтага матывацыі не было. Ды і не веру, што чужы талент можа спарадзіць мой уласны. Хутчэй комплексы з'явяцца. Наркотыкі — адразу ў мінус. Успомніце усіх зорак, хто песціўся наркатой: гэта сродак ілюзіі, сыходу ад сябе, але не плённай творчасці. Лепш шакаладку з'есці.

З Андрэем Маркавым

# Фокусы з маленькімі прадметамі

*З Андрэем Маркавым я пазнаёміўся на кастынгу шоу «Україна має талант», калі сам выступаў з песняй «Зялёнае танга». Я супакойваў трох дзяўчынак, што надта хваляваліся перад сваім выступленнем, як раптам мы пабачылі вельмі маладога і ўпэўненага чалавека, які неймаверна спрытна перакідваў ігральныя карты.*

Малады чалавек паказаў нам шмат рознага — ад прабіцця грашовых купюр (ніякіх слядоў дзіркі не засталося) да тэлепартацыі майго тэлефона з адной кішэні ў другую! Не ведаю, ці ўдала выступілі тым разам дзяўчынкі, але хваляванне іх як рукой зняло.

У адну суботу я выпадкова сустрэўся з Андрэем.

**— Забыўся тады спытаць: як ты патрапіў на УМТ?**

— Мне напісаў прадзюсар тэлеканала СТБ. Адкуль даведаўся ён — не ведаю. На кастынгу я пазнаёміўся з цікавымі людзьмі, у некаторых сёе-тое пераняў: як лепей паводзіць сябе на сцэне, узаемадзейнічаць з публікай, прадаваць свой жанр на рынку.

**— Ці прайшоў ты далей па конкурсе?**

— Тым разам — не. Мая памылка была ў тым, што я паказваў мікрамагію, а яна не вельмі выйгрышна выглядае ў тым ракурсе.

Мікрамагія — гэта фокусы з маленькімі прадметамі, заснаваныя на спрыце рук. Але ўсё гэта была прыказка. Цяпер слухай казку: Андрэй прапанаваў зрабіць у «Бярозцы» рубрыку з фокусамі. Прапанова прынята. Між іншым, Андрэю ўсяго толькі сямнаццаць гадоў, а ён ужо знайшоў сваё месца ў жыцці. Самы час і табе задумацца, дарагі чытач!

**А ЯНЫ ПАРАЛЕЛЬНЫЯ!**



*Ілюзія Вундта.*



*Ілюзія кавярні «Wall».*



*А гэта ілюзія Цольнера.*

***Віктар ЛУПАСІН***



**ФОКУС АД АНДРЭЯ МАРКАВА**

— Прасунуць нітку ў іголку не надта цяжка. Але ці знойдзецца той, хто зробіць гэта ўсляпую, трымаючы рукі за спінай? Бадай, такіх няма… Акрамя вас, што вы і дэманструеце гледачам: у адной руцэ нітка, у другой — іголка, рукі за спіну, крыху высілкаў — і перад усімі ўжо іголка з прасунутай у яе ніткай.

— Насамрэч, ніякага асобага ўмення для гэтага не трэба. Сакрэт просты: вы загадзя падрыхтавалі іголку з прасунутай у яе ніткай і прыхавалі яе, утыркнуўшы, скажам, ззаду ў свой пінжак. Паказваючы фокус, вы проста яе выцягваеце і дэманструеце гледачам. Застаецца толькі схаваць пустую іголку і пазбавіцца ад ніткі, што трымалі ў руках спачатку.

Біялогія

# Дзіўны і геніяльны

***Ён стаў лепшым дасягненнем прыроды за апошнія сотні мільёнаў гадоў. А паколькі эвалюцыя не стаіць на месцы, ёсць перадумовы лічыць, што праз тысячы гадоў людзі будуць валодаць ім у яшчэ больш дасканалым варыянце.***

З глыбокай старажытнасці вучоныя спрабавалі высветліць, як працуе чалавечы мозг. Сёння кожны школьнік ведае пра вялікія паўкулі, пакрытыя шкарупай, што ёсць пярэдні, сярэдні і задні мозг, што вылучаюцца такія структуры як мазжачок, гіпаталамус, некалькі шлуначкаў, гіпофіз.

Апошнія дзесяцігоддзі вучоныя спрабуюць паўтарыць поспех прыроды, стварыць штучны інтэлект, які б цалкам асэнсаваў сябе. Гэта магчыма, калі стварыць сістэму, якая будзе дакладна паўтараць будову мозга. Але насамрэч дагэтуль ніхто да канца не разабраўся, не растлумачыў натуральную мысленчую сістэму чалавека нават з дапамогай дакладных карт і схем, што паказваюць сотні мазгавых цэнтраў і сувязей паміж імі.

Кожнае імгненне ў нашай галаве курсіруе безліч патокаў інфармацыі. Яны спыняюцца і ўзнаўляюцца, перакрыжоўваюцца, але не змешваюцца, паўтараюцца, мяняюць напрамак, гэтым яны нагадваюць рух аўтамабіляў і людзей у цэнтры мегаполіса.

Уяві, што перад вучонымі стаіць задача прасачыць, запісаць і нанесці на карту ўсе сувязі, што ўзнікаюць паміж людзьмі ў вялікім горадзе, напрыклад, у Нью-Ёрку. Акрамя непасрэдных зносін вучоным трэба прасачыць і запомніць сувязі паміж людзьмі і будынкамі, людзьмі і машынамі, машынамі і будынкамі і гэтак далей. Аднак і гэтага недастаткова: уяўным вучоным трэба ведаць, у якім стане зараз знаходзіцца кожны метр электрычнага провада, кожны метр водаправодных і каналізацыйных труб у горадзе. Дакладна ў гэткай жа сітуацыі апынаюцца нейрафізіёлагі і тыя, хто вывучае мозг чалавека.

## КОЖНЫ ТРОШКІ МЕНДЗЯЛЕЕЎ

Дзіўна, але ўначы ўва сне наш мозг працуе нават больш актыўна і зладжана. Калі чалавек не спіць, яго мозг вырашае адразу шмат задач: успрымае і апрацоўвае інфармацыю, распазнае прадметы і людзей, вырашае творчыя задачы, перажывае пэўныя пачуцці. Над кожнай з гэтых аперацый сінхронна працуе адносна невялікая група нейронаў. І суседнія групы нервовых клетак працуюць з розным рытмам. Таму агульны працоўны фон усёй паверхні мозга нагадвае шум з форткі, прыадчыненнай на шматлюдны гарадскі праспект. А калі чалавек засынае, мозг перастае атрымліваць інфармацыю звонку і пачынае перапрацоўваць тое, што засвоіў удзень: патрэбнае раскладваць на палічкі, а непатрэбнае выкідаць. Акрамя таго, апрацоўваюцца творчыя задачы: часта менавіта зранку чалавек, што даўно біўся над праблемай, знаходзіць самае ўдалае рашэнне.

## САСТАРЭЦЬ НА ЎРОКУ ФІЗ-РЫ

Смага перашкаджае чалавеку нармальна працаваць і вучыцца. Калі чалавек актыўна займаецца спортам і ў гэты час не п’е вады, яго мозг літаральна за дзве-тры гадзіны сціскаецца так, нібы састарэў на цэлы год! Але шклянка вады праз некалькі хвілін вяртае мозг у нармальны стан. Таму ў час актыўных фізічных заняткаў абавязкова трэба піць.

## ПАКАЗЫТАЦЬ СЯБЕ САМОГА

Козыт можна адчуць толькі праз найбольш адчувальныя часткі цела. У мозг імгненна паступае адразу некалькі супярэчлівых сігналаў, асабліва калі хтосьці паказытаў знянацку. Гэтага дастаткова, каб вялікае вынаходніцтва прыроды «заліпла» і ўключыла ахоўную рэакцыю — смех і жаданне адхіліцца. Але калі мы паспрабуем паказытаць самі сябе, нічога не атрымаецца, якія б намаганні ні прыкладаліся. Таму што мозг ужо ведае, што і дзе мы збіраемся рабіць.

## ГЕНІЕМ МОЖА БЫЦЬ КОЖНЫ

Хто такія геніі? Гэта людзі, якія ў вышэйшай ступені развілі пэўныя здольнасці, няхай гэта будзе матэматыка, выяўленчае мастацтва, музыка або забіванне цвікоў. Геній без асаблівых высілкаў і падрыхтоўкі можа рабіць нешта цалкам недаступнае іншым людзям. Ньютан, Галілей, Эйнштэйн, Леанарда да Вінчы, Рафаэль, Далі — гэтых і многіх іншых вядомых людзей называюць геніямі. Кожны з іх зрабіў велізарны ўклад у навуку або мастацтва, здзейсніў за сваё жыццё столькі, колькі не змаглі б ажыццявіць і цэлыя сучасныя навуковыя інстытуты або творчыя калектывы. Аднак амаль усе людзі з геніяльнымі здольнасцямі альбо пакутавалі ад псіхічных расстройстваў, альбо мелі нізкі ўзровень інтэлекту. Многія сучасныя навукоўцы схільныя лічыць, што геніяльнасць і праблемы з псіхікай або інтэлектам звязаныя. Мозг генія працуе «не так»: геніяльная свядомасць прыкмячае ўсе дэталі навакольнага свету, яго самыя нязначныя падрабязнасці і тонкасці. У геніяльнага мозга не працуе абарона ад бескарыснай інфармацыі, якая ратуе нас ад перанапружання. Напрыклад, навошта памятаць кожнае слова ў змесце пэўнай кнігі? Альбо навошта ведаць, які дзень тыдня будзе (ці быў) у любую аддаленую ад нас дату? Навошта вылучаць і адрозніваць кожную ноту музычнай кампазіцыі, калі музыку можна проста слухаць? Геніі фіксуюць тое, што мозг іншых паспяхова фільтруе.

## КАЛІ ТЫ НЕ ГЕНІЙ

То ўсё роўна можаш дамагчыся высокіх вынікаў. Мозг развіваецца падчас актыўных заняткаў якой-небудзь дзейнасцю. Ён патрабуе, каб яго загружалі новай інфармацыяй. Вучоба ў школе, дзе кожную гадзіну пачынаецца новы занятак, як нішто іншае прымушае мозг развівацца. Таксама, як і ўласная творчасць альбо захапленне нечым новым і малазнаёмым. Аднак добрых вынікаў можна дасягнуць толькі тады, калі занятак цікавы, інакш для мозга гэта будзе бескарысная праца. Заўважана, што вельмі добра ўплываюць на мозг зносіны з інтэлектуальна развітымі людзьмі.

***Ліна ЧАРНЯЎСКАЯ***



# Адзін дзень з жыцця школы

*Рэпартаж*

**9.00.** Сёння панядзелак. Свой рэпартаж я, вучань 8 «А» класа Ародзь Павел, вяду з СШ № 12 горада Гродна. Звычайны панядзелак. Падобны на многія панядзелкі гэтага навучальнага года. І ў той самы час адрозны ад іншых — у школе адчуваецца нейкае хваляванне. Мо гэта звязана з набліжэннем вакацый? Але чаму ў калідорах болей дзяжурных вучняў, чым звычайна? Чаму ў дзяжурнага адміністратара такі заклапочаны выгляд? Адказ напрошваецца сам сабою: у школе чакаюцца госці! Хто ж яны? Гэта пытанне мы зададзім дзяжурнаму настаўніку Таццяне Мікалаеўне Главіцкай.

— Таццяна Мікалаеўна, чаму ўсе так мітусяцца і хвалююцца? Да нас едзе рэвізор?

— Бяры вышэй, Павел. Сёння ў нас асаблівы дзень. Чакаецца шмат гасцей. Дазволю сабе нагадаць: сёння адкрыццё музея.

Канешне! Музей-лабараторыя «Школа ашчадных гаспадароў». Незвычайны музей. І такая інтрыга ў назве...

Навіна пра тое, што ў нашай школе з'явіцца музей, маланкай пранеслася па класах. На перапынках многія рваліся зазірнуць у былы кабінет № 11. Новая прыгожая мэбля, цікавыя стэлажы, інтэрактыўная дошка, якой у нашай школе дагэтуль не было. Якасны рамонт. Але адкуль сродкі? Хто спонсар? З гэтым пытаннем звернемся да намесніка дырэктара па вучэбнай рабоце Галіны Анатольеўны Богдан.

— Галіна Анатольеўна, адкуль сродкі? І ў каго ўзнікла ідэя стварыць такі незвычайны музей?

— Мы шмат думалі, што б такое цікавенькае прыдумаць, каб школьны музей быў арыгінальным і запатрабаваным. Дапамог выпадак. Нас запрасілі на трэнінг па падрыхтоўцы праектаў для рэспубліканскага конкурсу «Энергаэфектыўная ўстанова адукацыі». Запрасілі не проста так — школа зарэкамендавала сябе актыўісткай у гэтым кірунку. Конкурсы выйгралі. І атрымалі грант памерам тры з паловай тысячы еўра, якія пусцілі на абсталяванне музея. Грошы на рамонт зарабілі самі, частку сродкаў на мэблю вылучыў Апякунскі савет. Куплены электронныя канструктары, аб'яўлена дабрачынная акцыя «Падарунак для музея».

**9.55.** Пасля другога ўрока на першым паверсе ўзняўся вэрхал. Вучні старэйшых класаў носяць скрыні, стэнды, прыборы. Паміж імі сноўдаюцца цікаўныя малыя. Да нас прыехала перасоўная экспазіцыя па энергазберажэнні, якую прывёз у нашу школу Цэнтр эканамічных рашэнняў (Мінск).

**10.30.** Паўгадзіны — і экспазіцыя ўсталявана. Празвінеў званок. У рэкрэацыі сабраліся практычна ўсе старшакласнікі. Асаблівую цікавасць выклікаў незвычайны прыбор, створаны ў выглядзе веласіпеда. Пацікавімся ў Пашы Шведа, навошта ён так заўзята круціць педалі і ў чым таямніца прыбора.

— Гэта не проста веласіпед, тут можна самому паспрабаваць выпрацаваць электраэнергію. Я вельмі стараўся і ўласнымі высілкамі запаліў дзве лямпачкі, а ў старэйшых атрымалася ўключыць радыёпрыёмнік. Зараз спрабуем выпрацаваць энергію для ўключэння тэлевізара.

Некалькі хвілін, апладысменты — тэлевізар на стэндзе запрацаваў. На экране Паша бачыць сябе. Генератар спрацаваў!

**13.05.** Пасля пятага ўрока напружанне ў школе павялічваецца. Пачалі прыбываць першыя госці. Каля дзвярэй школы спыніўся аўтамабіль Гродзенскай тэлекампаніі. Першы госць — каардынатар праекта SPARE (па-беларуску — школьны праект па выкарыстанні рэсурсаў і энергіі) у Беларусі Наталля Андрэенка.






— Скажыце, калі ласка, вам спадабаўся наш музей? Ведаю, што вы былі там яшчэ да адкрыцця.

— Мне хацелася ўбачыць, у што ўкладзены грошы нашых спонсараў. Скажу сцісла: вы малайцы! Музей атрымаўся цудоўны. А з улікам таго, што ў школе шмат ініцыятыўных і кампетэнтных педагогаў, можна спадзявацца, што музей-лабараторыя будзе цікавым для вучняў з усяго горада. Хачу пажадаць яму доўгіх гадоў плённай дзейнасці.

У актавай зале тым часам экалагічны савет праводзіць агітпраграму «Планета ў нас адна». Мяркуючы па ажыўленай рэакцыі ўдзельнікаў, праграма падабаецца.

**15.00.** Пад апладысменты пераразаецца чырвоная стужка. Музей-лабараторыя сустракае першых наведвальнікаў. Актыў музея выступае з творчай візітоўкай, дэманструе падрыхтаваны відэаролік. Сваё апошняе пытанне я задам дырэктару нашай школы Але Іванаўне Галавенка.

— Ала Іванаўна! Віншую з адкрыццём музея. Скажыце, калі ласка, якія ў вас планы? Ці стане ён брэндам установы адукацыі?

— Для гэтага мы стварылі спрыяльныя ўмовы. Яшчэ да адкрыцця музей наведалі больш як 200 навучэнцаў і педагогаў, тут праходзяць факультатыўныя заняткі, адкрытыя ўрокі і лабараторныя даследаванні. Актыў музея прыняў удзел у некалькіх рэспубліканскіх конкурсах і стаў іх дыпламантам. Наперадзе — дзівосныя адкрыцці і грамадска-значныя праекты. Мяркую, менавіта тут з сённяшняга дня будзе працаваць школьны экалагічны цэнтр. Між іншым, «Школа ашчадных гаспадароў» — гэта наш брэнд, пра які вядома не толькі ў рэгіёне, але і ў краіне. У ідэале нядрэнна было б ахапіць працай «Школы ашчадных гаспадароў» усю Беларусь.

**19.00.** Падышоў да завяршэння гэты незвычайны для нашай школы дзень. Пачаў працу адзіны ў нашым горадзе музей-лабараторыя, які дапаможа навучыць нас любіць і берагчы планету, быць яе сапраўднымі гаспадарамі.

***Павел АРОДЗЬ,***
***вучань 8 класа СШ № 12, Гродна***




Подпіс рэдактара

*Інтэрактыўны праект, у якім можа прыняць удзел кожная школа краіны*

# Пра вучняў *incognito* вострых і тупых




***Жывая размова ў настаўніцкай, падслуханая карэспандэнтам часопіса «Бярозка» і пададзеная на яго старонках «без купюр». Вам цікава? Тады чытайце падслуханае, заўважайце ў размове карыснае, рабіце высновы і — прапаноўвайце «Бярозцы» свае тэмы, а таксама знаёмыя настаўніцкія «пад праслушку».***

*С. Д.:* Я лічу, што калі настаўнік па сваім прадмеце ЦТ мінімум на 90 балаў не здольны напісаць або заданні гарадской алімпіяды адэкватна выканаць, то гэта дрэнны настаўнік.

*А. І.:* Дарэчы, я заўважыла таксама, калі пачынала толькі працаваць: запыталіся ў мяне дзесяцікласнікі, дзе можна пачытаць пра міфы дадаткова, а я напісала на дошцы: М. А. Кун. І ў мяне дзяўчынка запыталася: а М. А. як расшыфроўваецца? Я шчыра прызналася, што не ведаю. А яна сказала: як вы не ведаеце, вы ж настаўніца! Потым я зразумела, што лепш на такія пытанні адказваць. Дакладна запомніла, што Куна звалі Мікалай Альбертавіч. Калі распавядаеш пра нейкага пісьменніка, пытаюць: а колькі ў яго было дзяцей? Вось гэта цікава насамрэч!

*С. Д.:* Такая цікаўнасць часта сустракаецца ў класе пятым-шостым, і трэба яе падтрымліваць, таму што ідзе працэс атупення, калі чалавеку ўжо больш нічога не трэба, акрамя нечага ў спажывецкім сэнсе. Як казаў адзін даволі вядомы ШДКшнік, Валянцін Мельнікаў, калі чалавека не выхавалі цікаў-

ным, то прыкладна гадоў у васямнаццаць ён канчаткова тупее, яму ўжо не цікава нічога апроч таго, што можна з'есці, выпіць, надзець на сябе, спажыць іншым чынам. Спажывецкі погляд на жыццё пачынае фарміравацца раней — класе ў восьмым-дзявятым. Ёсць такія, якія не тупеюць. А ёсць такія, па якіх ужо ў восьмым-дзявятым класе бачна, што чалавеку сапраўды нічога не цікава. Плюс яшчэ гульні камп'ютарныя цяпер у большай ступені, чым раней распаўсюджаны.

*В. Л.:* Ну, не ў большай, чым у канцы дзевяностых.

*С. Д.:* Анлайн-гульняў жа не было.

*В. Л.:* А ў афлайнавыя ўпорваліся.

*Б. Г.:* Шаноўныя калегі, нарадзілася пытанне: што вы робіце падчас кантрольных пераказаў з мабільнымі тэлефонамі сваіх вучняў?

*С. Д.:* Ёсць усякае. У мяне сярэдняя ступень — гэта яшчэ не настолькі актуальна. Я ведаю, што ёсць настаўнікі, якія адбіраюць тэлефоны. І гэта добра, я лічу.

*А. І.:* Я часам раблю такія рэчы: калі бяру тэкст для пераказу з сеціва і ведаю, што дзеці могуць спісаць, то выкідваю нейкі сказ...

*С. Д.:* Якое-небудзь імя ўласнае замяніць можна... Калі менавіта пераказ і два ўрокі, я раблю так, як на алімпіядах і экзаменах: збіраю чарнавікі, на кожным распісваюся, прычым, якім-небудзь адмысловым колерам, які цяжка дастаць, а потым раздаю, і больш нічога на парце нельга мець. Калі вучань нават штосьці прачытаў на перапынку, то гэтым скарыстацца ўжо даволі складана…

## ПРА ПРАФДЭФАРМАЦЫЮ

*А. І.:* Я чула такую думку, што калі параўноўваць БДУ з БДПУ, то ў БДУ рыхтуюць спецыялістаў па прадмеце, а ў БДПУ рыхтуюць настаўнікаў. Яны прыходзяць больш падрыхтаванымі, маюць уяўленне аб працы. Але калі выпускнік БДУ набіраецца досведу, ён абганяе БДПУшніка за кошт ведаў. З нас рыхтавалі філолагаў, але не настаўнікаў. Першае і самае цяжкае — гэта праца з дакументацыяй, таму што цябе гэтаму наогул не вучаць, і ты не разумееш, трэба ставіць кропку ці не трэба. Напрыклад, запісаў тэму ў журнале. Пасля ставіць кропку ці не ставіць? Пасля даты ў журнале ставіць ці не ставіць?

*В. Л.:* Пасля тэмы трэба, пасля даты не. Якога дыяметру павінна быць кропка, гэта не рэгламентуецца.

*А. І.:* На метадычным аб'яднанні нам казалі як мы павінны правяраць кантрольныя сшыткі і смяяліся: «Чаго вы скардзіцеся, вам жа ўсё рэгламентуюць! Можаце закрэсліць літару як справа налева, так і злева направа — вам за гэта нічога не будзе!». І таксама, што асабіста для мяне было цяжка, — калі ты прыходзіш у школу, то павінен ведаць праграму: што вучні ведаюць акрамя твайго прадмета і што яны ведаюць па тваім прадмеце, што ў іх можна пытацца, што не і на якім узроўні.

*Б. Г.:* Не ведаю, як з пункту гледжання настаўніцкага, але ведаю, што як асоба я змянілася, таму што ты прыходзіш да дзяцей са сваім характарам, а ў класе дваццаць шэсць вучняў і ў кожнага характар свой. Ты разумееш, што трэба нейкім чынам падладжвацца пад тое, як паводзіць сябе гэтае дзіця, гэтае дзіця і гэтае дзіця. А ўжо астатнія...

*А. І.:* Трэба адчуваць, што ты можаш сабе дазволіць, а што не. Ёсць дзеці, якія сядуць табе на галаву. Напрыклад, з восьмым класам я трымалася далей, таму што там былі вельмі хуліганістыя падлеткі. Дзявяты клас — ужо вялікія дзеці, разумныя. З імі можна было размаўляць як з дарослымі і казаць: вы ж разумееце, што гэту працу трэба зрабіць. Але потым, напрыклад, на перапынку, ты павінен з імі паразмаўляць пра нешта цікавае для іх. З сёмым класам таксама цяжка — яны любяць са мной паразмаўляць у сацыяльных сетках, знайшлі мяне ў інтэрнэце дзе толькі змаглі, я ўво-





гуле хвалявалася, каб там не было нічога непедагагічнага.

**С. Д.:** Я ў сябры дадаю класа з дзявятага. Я ж, да таго як прыйшоў у школу, працаваў па ўсякіх там пазашкольных справах вельмі шмат, прычым, у асноўным са старшакласнікамі. І трэба было зразумець, што з тымі трэба сябе трымаць так, з тымі — гэтак. Скажам так, старэй становішся па веку, але пакрысе расце і дыстанцыя, і гэта цалкам правільна. Я вось раней лічыў, што калі вучні цябе баяцца, то гэта дрэнна. Цяпер я ўжо так не лічу.

**Б. Г.:** Шчыра скажу, я больш патрабавальная настаўніца, чым былі мае настаўнікі.

**С. Д.:** Не, гэта нармальна. У тым плане, што школьную праграму амаль па ўсіх прадметах і так пакрысе спрашчаюць, скажам так, каб галоўка не забалела. А гэта няправільна. Кажуць пра нагружанасць, а вучань насамрэч адэкватную нагрузку атрымлівае.

**А. І.:** Яны працуюць настолькі, наколькі ты іх нагружаеш. Калі настаўнік патрабавальны, яны будуць стагнаць, але зробяць і будуць потым мець веды, а калі ты іх пашкадуеш, яны будуць лічыць, што гэта нармальная нагрузка, і ў выніку такімі і будуць іх веды.

**Б. Г.:** Дарэчы, мае выпускнікі гэтага года, калі я прыйшла да іх працаваць, сказалі мне дастаткова дзіўную для вучняў рэч: «Нам так падабаецца, што вы ў нас нешта патрабуеце! Мы, маўляў, прывыклі: прыйшлі на ўрок, адседзелі сорак пяць хвілін і пайшлі, нічога не даведаўшыся. А ў вас мы за сорак пяць хвілін даведваемся столькі, колькі не ведалі дагэтуль за дзесяць гадоў навучання».

**Б. Г.:** Таму да пытання, ці змяняюцца вучні: яны таксама пачынаюць, напэўна, крышачку разумець, што ім усё ж такі патрэбна адукацыя, і што адукацыя можа быць не толькі карысная, але і цікавая.

**С. Д.:** Наконт кампрамату ў сацсетках. Мне здаецца, ганьба — гэта не калі ў цябе ёсць у сацсетцы нейкі кампрамат: з адпачынкаў фоткі і гэтак далей — гэта жыццёва, усе мы людзі, і ўсе дзеці гэта разумеюць. А вось калі заходзіш на старонку калегі, а там у яго — рэпосты з нейкіх быдласуполак, піша няграматна нават самыя элементарныя словы — вось гэта не для настаўніка. Кампраметуе тое, што ў настаўніка «сценка» такая ж, як у вучня. Ненармальна гэта. Дарэчы — так заўжды было, — вучні бачаць, калі настаўнік некампетэнтны, і гэтага яны, як правіла, не даруюць. Таму што калі вучням нічога не трэба, то яны могуць і не зразумець, што ты сам нічога не ведаеш, а вось для гімназістаў гэта важна, і непадрыхтаваным на які-небудзь урок прыходзіць — гэта недазваляльная рэч. Ты, канешне, можаш выдаць імправізацыйны ўрок, але так атрымліваецца далёка не заўжды. Калі па якіхсьці прычынах не зусім падрыхтаваны прыходзіш, то… цяжкавата.

***Пісалася на дыктафон Віктара ЛУПАСІНА***

# Два сокалы Надзеі Місяковай

***Рэчы, дарагія для кагосьці, раскажуць больш, чым лепшыя сябры гэтага кагосьці. Каб зразумець чалавека, часам дастаткова трапіць у яго пакой. Удзельніца дзіцячага Еўрабачання-2014 Надзея Місякова пагадзілася паказаць чытачам «Бярозкі» свае падарункі, фотаздымкі і нават ляльку, якую пашыла сама.***






Лялька ў доўгай сукенцы з кветкамі ў руках выглядае вельмі загадкава і рамантычна. І разам з тым вельмі стыльна. «Цільду я пашыла сама. Асабліва цікава было працаваць над стварэннем вобраза для яе, выдумляць адзенне і ўпрыгожванні», — кажа Надзя.

У пакоі юнай спявачкі «жывуць» два сокалы. Першага яна атрымала ў падарунак пасля перамогі ў Нацыянальным адборы дзіцячага Еўрабачання ад ансамбля «Заранак», у якім спявае. Па словах Надзі, такая ўвага была для яе вельмі прыемнай. Другі сокал — мальтыйскі. Яго падаравалі дзяўчаты з балета Vegas Dance, якія ўдзельнічалі ў нумары разам з нашай зорачкай. «Між іншым, тады мы даведаліся, што сокал — гэта нацыянальны сімвал Мальты».



У 2011 годзе Надзея ўдзельнічала ў музычным конкурсе «Я спяваю». Адзін з падарункаў адтуль — фотарамка-сардэчка.



«Лаўца сноў мы выкарыстоўвалі ў нашай фотасесіі, а пасля я забрала яго з сабой. Цяпер ён абараняе мае начныя сны».



Фотаздымак з сястрой Лізай у рознакаляровай рамцы — адзін з самых любімых. «Тут мы зусім маленькія. Гэта фота выклікае ў мяне вельмі цёплыя ўспаміны!»

***Падрыхтавала Кацярына ЗАХАРЭВІЧ***

*У чый партфель або пакой вы хочаце зазірнуць? Пішыце, тэлефануйце, прапноўвайце!*



# Любіць на мяжы магчымасцей

***Паліне Кузьміцкай 21 год, але яна ўжо намеснік галоўнага рэдактара аднаго з аддзелаў партала TUT.BY. Заўсёды ведае, чаго хоча: не быць лішняй у прафесіі і займацца мастацтвам. Заўсёды за нешта баіцца: перастаць пісаць і не ўсведамляць, што з сябе ўяўляе. І заўсёды хоча спрабаваць што-небудзь новае.***

**— Калі і з чаго для цябе пачалася журналістыка?**

— На школьным відэа, якое, на жаль, не захавалася, я стаю, 6-гадовая, і вельмі сур'ёзна, зусім не вымаўляючы «р», гавару, што хачу стаць журналістам. Гавару гэта, як і многае іншае, абсалютна бяздумна. Да фармулёўкі «хачу быць журналістам» я вярнулася ў 14 гадоў. Тады зразумела, што мне патрэбна праца, якая дазволіць знаёміцца з жыццём у экстра-рэжыме (бо я нічога пра яго не ведаю, а хачу ведаць усё) і ствараць нешта асобаснае і эстэтычнае, а ў форме тэксту ў мяне гэта атрымлівалася найбольш прэзентабельна. Першы тэкст быў надрукаваны ў газеце для падлеткаў і моладзі. Гэта была звычайная зацемка пра… Маўляў, Палац дзяцей і моладзі адчыняе перад намі свае дзверы. Кепскі гэта быў матэрыял, мёртвы. Тады ж здарыліся нейкія жахлівыя спробы выціснуць з сябе калялітаратурныя тэксты ўзроўню школьных сачыненняў і выканаць заданне рэдактара аднаго часопіса: падрыхтаваць апытанне на тэму вырашэння праблем са страўнікам падчас цяжарнасці. Усё, што я тады рабіла, было зроблена вельмі дрэнна, і я ўдзячная людзям, якія звярталі на гэта маю ўвагу. Хачу зрабіць на гэтым акцэнт: няма дрэнных тэм, ёсць дрэнныя аўтары. І вельмі саманадзейна меркаваць, што ў цябе атрымаецца добрае інтэрв'ю з Ванем Ургантам, калі ты і пра праблемы са страўнікам напісаць не можаш.

**— З якімі выданнямі ты супрацоўнічала?**

— З газетамі «Раніца» — яшчэ да паступлення — і «Звязда», парталам relax.by, тэлеканалам АНТ (прэс-службай і аддзелам спецпраектаў), тэлегідам «Антэна», а цяпер маё месца — TUT.BY. Я не люблю тэорыю тэарэтычных тэорый (менавіта таму Інстытут журналістыкі БДУ апынуўся для мяне тым самым негатыўным вопытам, які таксама вопыт). Я пастаянны практык — мне, калі доўга не пішу, робіцца фізічна дрэнна, а пра маральны стан і казаць няма чаго. Гэта рэальнае адчуванне, якое таксама павінна быць асноўным для таго, хто хоча

быць нядрэнным аўтарам (хоць і для графамана яно, як паказвае практыка, таксама асноўнае). Акрамя таго, мяне заўсёды цікавіў піар, у прыватнасці, у сферы шоу-бізнесу і мастацтва, таму апошнія гады я імкнуся набываць веды і навыкі ў гэтай сферы.

**— Ці была ў цябе альтэрнатыва журналістыцы?**

— Не, я чамусьці заўсёды ведаю чаго, чаму і навошта хачу. Сумневы мяне не раздзіраюць. Гэта, напэўна, не ад вялікага розуму, але тут ужо нічога не зробіш, кожнаму свае паталогіі. Нават калі са мной па-англійску развіталася газета, якая абяцала штатнае месца і касмічны, як мне здавалася, заробак (тады я тыдзень правалялася ў ложку, захліпаючыся слязьмі), я не думала сур'ёзна пра тое, каб пастаяць дзе-небудзь на макдрайве ў вясёлай бейсболцы або на рэсэпшыне ў прыгожай сукенцы. У гэтых прафесіях няма нічога дрэннага, хацець і ўмець зарабляць — гэта пахвальна. Але я заўсёды займалася журналістыкай і хачу ёй займацца столькі, колькі дазволяць унутраныя рэзервы і знешнія абставіны. Але калі казаць пра тое, што яшчэ хацелася б паспрабаваць, то гэта праца, звязаная з выяўленчым мастацтвам. Я доўга малявала, і для мяне тое, што адбываецца, калі садзішся за мальберт, — гэта космас у абсалюце. Ну, і жывёлы — захапленне дзяцінства. Ветэрынара з мяне ўжо не выйдзе, але калі атрымаецца як-небудзь арганізаваць лякарню-прытулак і падтрымліваць яе — маральна, фізічна, фінансава, як заўгодна, то ўсё астатняе адыдзе на другі план — і не будзе тады чалавека, шчаслівейшага за мяне.

**— Які самы важны прафесійны і жыццёвы ўрок ты атрымала?**

— Я заўсёды старалася вучыцца ў людзей сумленных з самімі сабой. Трэба кожную хвіліну разумець, што за субстанцыю ты зараз з сябе ўяўляеш. У паэта Бродскага з гэтай нагоды вельмі трапны выраз ёсць: «Чалавек прывык сябе пытаць: хто я?». Паверце, яго варта загугліць! Не займацца самалячэннем — шчыра жадаю гэтага кожнаму і, вядома, сабе ў першую чаргу.



**— Якімі жыццёвымі прынцыпамі ты кіруешся?**

— Ён адзін: «Калі нешта ідзе не так, вінаватых шукаць не дай мне: калі нехта і вінаваты, гэта я і мае чаканні». Таццяна Зыкіна, «Прычын няма».

**— Раскажы пра свае прафесійныя страхі? Ты змагаешся з імі ці ўжываешся?**

— Мы з маімі страхамі, татуіроўкамі і рэфлексіяй будзем жыць доўга і шчасліва ды памром у адзін дзень. Я вельмі баюся перастаць пісаць. Зразумець аднойчы, што цалкам страціла гэтую здольнасць. Баюся рабіць плоскія і пахабныя тэксты і не ўсведамляць гэта. Баюся эмацыйна выгарэць і здавацца людзям, з якімі сутыкаюся па працы, выпадковым у прафесіі чалавекам — павярхоўным, бяздумным і цынічным. Я стараюся вельмі свядома падыходзіць да таго, што раблю, і згубіць гэтую здольнасць таксама вельмі баюся.







**— Чым адрозніваецца Паліна-рэдактар ад Паліны-журналіста? Чаго ты чакала ад першай і другой прафесій і што атрымала?**

— Паліна-журналіст адказвае толькі за тое, які твар будзе ў яе, яе тэксту і героя гэтага тэксту, калі такі ёсць. Паліна-рэдактар адказвае не толькі за ўсё, пералічанае вышэй, але і за твар рэсурсу. А на твары, як вядома, павінны адлюстроўвацца думка і нешта накшталт душы. Але і падаць гэтым тварам у бруд таксама не вельмі хочацца. Рэзюмэ: у другой Паліны шырэй сфера адказнасці і больш задач. Карысна тое, што ты пачынаеш на больш якасным, чым інтуітыўны, узроўні адрозніваць талент ад бясталентнасці. Ты бачыш у дастатковай колькасці тэксты добрыя і дрэнныя. І на гэтым кантрасце мяжа паміж дабром і злом асабліва відавочная для цябе самой. Складана тое, што паступова ты ўсё больш сыходзіш у пошук добрых тэкстаў, працу з імі, пастаянны іх аналіз (ноччу ў сне я часта вычытваю тэксты), і ўсё менш пішаш сама. А гэта, паўтаруся, вельмі мяне турбуе. Ты робішся больш уважлівай, удумлівай, спакойнай, а гэта так сабе сітуацыя. Пастаянны непакой, нерв, унутраны надлом — як заўгодна можна гэта называць — патрэбны, мне здаецца, як паветра, каб пісаць тэксты, якія будуць мець водгук.

**— З якіх думак і дзеянняў пачынаецца твой працоўны дзень?**

— Ён пачынаецца бессэнсоўна — смачнай кавай і добрай музыкай. Потым адбываецца ўнутраная факусіроўка і стартуе праца: праверка пошты, вычытка і рэдактура матэрыялаў, выезды на інтэрв'ю і рэпартажы, падрыхтоўка сваіх, аўтарскіх, тэкстаў, абмеркаванне з галоўным рэдактарам ідэй праектаў і складанне плана публікацый на бліжэйшы час. Пакуль што мне кожную раніцу хочацца вяртацца на маё рэдактарскае крэсла.

**— Як ты будуеш адносіны з аўтарамі?**

— У большай ступені з аўтарамі выбудоўвае адносіны галоўны рэдактар, аднак, мне таксама даводзіцца працаваць з некаторымі з іх.

Прынцып просты: я стаўлюся да іх так, як хацела, каб да мяне ў свой час ставіліся мае рэдактары. А гэта значыць, літаваць пачуцці — прафесійныя і чалавечыя, умець аргументаваць кожную праўку ў тэксце, быць гатовай даць параду, але толькі ў тым выпадку, калі яе папросяць, ніколі не ціснуць сваім бачаннем, умець даступна растлумачыць пазіцыю партала. А яшчэ памятаць пра тое, што цябе, па-добраму, заўсёды можна спытаць: а што пішаш ты, і як гэта робіш ты? Трэба, каб адказ быў. І пажадана годны.

Я веру, што праўда і сіла за тым, хто ствараe. Адшліфоўка — справа другасная. Таму я заўсёды і ва ўсім за журналістаў.

**— Што і хто выхаваў цябе такой, якая ты ёсць?**

— Бацькі і любоў. Мая сям'я — прыклад лепшага з магчымых спалучэнняў інтэлігентнасці, дэмакратыі і гумару. Дзякуючы бацькам я навучылася рабіць самастойны выбар, быць яму вернай і несці за яго адказнасць. Мне заўсёды казалі: «Рабі так, як лічыш патрэбным, і ведай, што мы цябе падтрымаем, але нічым не зможам табе дапамагчы». У гэтым спалучэнні павагі і сумленнасці — тая самая залатая сярэдзіна, якая дазваляе танцаваць на граблях з карысцю.

Што тычыцца другога пункта, я спецыяльна зрабіла ўпор на пачуццё, а не на чалавека. Таму што менавіта яно «прапелер, рухавік і дрожджы». Вельмі важна ў пачатковым перыядзе станаўлення асобы дазволіць сабе любіць таго, каго ты лічыш ва ўсіх адносінах лепшым за сябе (нават калі на самай справе гэта не так). Не так важна, што ў выніку пераважыць: максімалізм або сталасць. Галоўнае тое, што на шляху ад сустрэчы са звышістотай да прыняцця яго як звычайнага, але роднага чалавека, ты назаўжды развітаешся са слабасцю, інфантыльнасцю і эгаізмам, што вельмі карысна. А яшчэ станеш лепшай з магчымых сябе і зможаш потым з чыстым сэрцам пасмейвацца над усімі, хто да гэтага верыць, што вышэй галавы не скокнеш.

**— Калі б ты сустрэлася з сабой на 5 гадоў маладзейшай, што б ты параіла? Пра што спытала б у сябе, старэйшай на 5 гадоў?**

— На першае пытанне адкажу радком з Булгакава: «Я дазволю сабе смеласць параіць вам, Маргарыта Мікалаеўна, нічога і ніколі не баяцца. Гэта неразумна», — гэта лепшае, што я магла б сказаць сабе пяцігадовай даўнасці (і параіць перачытаць).

А спытаць у сябе было б нядрэнна:
«Як справы з мозгам і вагой, Палінка?»

**— Што ты магла б параіць ці пажадаць нашым таленавітым чытачам?**

— Не лічу, што маю права даваць камунебудзь парады. Як кажа адзін з маіх мудрых знаёмых, не трэба апранацца ў касцюм Далай Ламы. Але магу пералічыць пункты, пад якім я сама падпішуся, паклаўшы руку як на Біблію, так і на зборнік Дж.Д. Сэлінджэра, які для мяне таксама святы.

Трэба зрабіць так, каб любімая справа стала крыніцай заробку. Тое, што пасля гэтага яна перастане быць любімай — лухта. Выдаткі, стомленасць і расчараванне непазбежныя ў любой сферы, і лепш, калі яна будзе па-сапраўднаму блізкая.

Варта навучыцца любіць на мяжы сваіх магчымасцей, без аглядкі і ўзаемазалікаў. Як у трэнажорнай зале трэніруюцца цягліцы, так у каханні — сэрца. Каб яно працавала па-сапраўднаму, а разам з ім раскрываўся ўвесь эмацыйны спектр, які дае імпульс і ключ да любой творчасці, трэба ўмець кахаць. Традыцыйна, ёсць дзве навіны, добрая і дрэнная: нічога важней гэтага ў жыцці ўсё роўна не здарыцца.

Неабходна чытаць шмат добрых кніг, слухаць усю якасную музыку, якую толькі можна знайсці, і адсочваць навінкі фестывальнага кіно. Гэта інвестыцыі ў сябе, якія потым адбіваюцца на твары. Чым больш часу пройдзе, тым большы будзе пласт прапушчанага і тым менш будзе сіл на тое, каб нешта наганяць.

Ніколі нельга забываць фразу: «Падумай, ці будзе гэта важна праз год». У любой незразумелай сітуацыі я не перастаю паўтараць яе сама сабе, пакуль не знайду дакладны адказ.

Самае галоўнае: будзьце акуратныя з хуткімі вугляводамі і не слухайце саветаў юных дзяўчат.

*Гутарыла Кацярына ЗАХАРЭВІЧ*
*Фота Алы ШЫЛЕЦ*



Святлана Сітнік

# Адказаць на «дзясятку»? Лёгка!

***Ці задумваўся ты калі над тым, ад чаго залежаць твае адзнакі? Ці залежаць яны толькі ад ведаў? Канешне ж, не!***

Настаўнікі заўважаюць і адзначаюць не толькі твае веды, але і тое, што ты ўмееш (або не ўмееш) рабіць. Тэкст, напісаны старанна — ахайна і прыгожа, — мае болей шанцаў на добрую адзнаку, чым сказы, кінутыя на паперу «абы хутчэй».

Падумаеш — дробязь якая! Але жыццё складаецца менавіта з дробязей. Яны, дробязі, уплываюць на твае адзнакі і, адпаведна, на на* строй, а таксама на стусункі з бацькамі і ўвогуле — на твой далейшы лёс. Якія «дробязі» ўпрыгожваюць твае вусныя адказы ля дошкі? Перш за ўсё — смеласць перад класам, уменне адначасова трымаць сябе ў руках і быць расслабленым, здольнасць гаварыць свабодна. Адным словам гэта называецца «ўпэўненасцю». Некаторыя вучні паспяхова выдаюць упэўненасць у сабе за ўпэўненасць у сваіх ведах. Ці трэба казаць, што яны атрымліваюць лепшыя адзнакі, чым тыя вучні, што хоць і вывучылі ўрок, але пры адказе хвалююцца? Табе даводзілася бачыць, як выступаюць паспяховыя людзі — палітыкі, акцёры і розныя іншыя зоркі экранаў? Яны гавораць так смела, свабодна і ўпэўнена, што мы гатовы не толькі ўважліва іх слухаць, але і згаджацца з імі, бо ўзнікае адчуванне, што тое, пра што яны паведамляюць, мае вагу і каштоўнасць (а значыць, заслугоўвае высокай адзнакі!). Пра такіх кажуць: «Ведае, што гаворыць!» Калі ты хочаш, каб і пра цябе так казалі, навучыся ствараць «упэўненае» ўражанне. Для гэтага

## ТРЭНІРУЙСЯ!

«Цяжка ў вучобе — лёгка ў баі!» — сказаў нейк вялікі палкаводзец Сувораў і перамог. Ты можаш рабіць практыкаванне, якое падорыць табе сілы для барацьбы з трывогай і страхам. Для яго спатрэбяцца цацкі або флаконы з касметыкай і парфумай. Выберы месца, дзе табе будзе зручна стаяць, — няхай гэта будзе быццам бы месца ля дошкі. Размеркаваныя па пакоі цацкі і флаконы няхай іграць ролю аднакласнікаў. Канешне, трэба назначыць нейкі прадмет на ролю настаўніцы ці настаўніка таго прадмета, які ты збіраешся рэпеціраваць. Гэта павінен быць аб’ект вялікага памеру — напрыклад, стул або крэсла. Кожны раз, паўтараючы вусны матэрыял (апавяданне для пераказу, верш на памяць або параграф па гісторыі), расказвай яго не проста так, вачыма ў столь,

**Тут наўмысна прадэманстравана недарэчнасць, якую часам ненаўмысна дапускаюць аўтары тых ці іншых тэкстаў, — каб ты яе прыкмеціў і сам так не рабіў. Памылкі быццам няма, але гэта «НА-НА-НА»… Непрыгожа, праўда?*

а адмыслова: сваім «як быццам аднакласнікам» — флаконам-цацкам і «як быццам настаўніцы» — стулу або крэслу. Спачатку будзе цяжка, май на ўвазе. Захочацца закрыць падручнік і, паспадзяваўшыся на «раптам пранясе», махнуць на ўсё рукою. Але калі ты хочаш палепшыць свае адказы ля дошкі — рабі хоць што-небудзь! Цяжка расказваць параграф — расказвай верш. Не хапае духу на ўсе вусныя прадметы — перакажы хаця б адзін з іх, няхай сабе самы лёгкі. Выконваючы гэта практыкаванне (чым часцей, тым лепей), ты хутка пачнеш заўважаць вынік: адказваць ля дошкі робіцца лягчэй, адзнакі паляпшаюцца!

## ГАВАРЫ!

Размаўляй як мага болей: з сябрамі, бацькамі, бабулямі і дзядулямі. Трымай «у запас» некалькі цікавых гісторый (пажадана, пра тое, што здаралася з табою) і абавязкова расказвай іх на сямейных святах і сяброўскіх сустрэчах. Твае родныя і сябры цябе любяць, і калі ты раптам спатыкнешся на слове ці ляпнеш нешта неўпапад, гэта не стане для іх нагодай цябе ацэньваць. Расказваць розныя выпадкі з жыцця або сюжэты прачытаных кніг за сямейным сталом або ў сяброўскай кампаніі — выдатны спосаб навучыцца спакойна і ўпэўнена гаварыць перад людзьмі. Немагчыма навучыцца добра выступаць перад аўдыторыяй, чытаючы мудрыя парады на гэты конт у разумных кніжках! Практыка, толькі практыка прывядзе цябе да поспеху! Час, у якім ты жывеш, — «эпоха маўчуноў»: большасць бавіць час за камп’ютарам, размаўляючы не языком, а падушачкамі пальцаў. Калі такія людзі трапляюць у сітуацыю, калі трэба гаварыць (на экзамен, напрыклад), то ў лепшым выпадку яны выглядаюць разгублена, а ў горшым — правальваюць сваё выступленне (і, адпаведна, экзамен), нават калі веды ў галаве ёсць, і немалыя.

Цяпер ты разумееш, наколькі важна мець зносіны «ўжывую»? Часцей сустракайся з сябрамі, заводзь новыя знаёмствы. Гуляйце разам або, калі гэта не часта ўдаецца, вядзіце размовы па тэлефоне.

Спадзяюся, што ты пачнеш выконваць мае парады сёння ж, і ўжо вельмі хутка, калі твая «любімая» настаўніца, вышукваючы па спісе ў класным журнале чарговую «ахвяру», а ўвесь клас замрэ ў трывожным чаканні, ты нязмушана закінеш нагу за нагу і расслаблена абапрэшся на спінку стула: «Падумаеш, цяжкасць якая: усяго толькі нейкі параграф пераказаць!»



*Святлана Дзянісава, шэф-рэдактар*

## АСАБІСТЫ ДОСВЕД

— Я заўсёды саромелася настаўнікаў, аднакласнікаў, школьнай дошкі… І кожны дзень сабе ўнушала: заўтра буду зоркай! Не проста ўнушала. Я складвала шматкроць ліст паперы, каб атрымаць кавалачак «крэйды», падыходзіла да выключанага тэлевізара і, водзячы паперай па экране, даказвала тэарэму, атаясамляючы сябе з настаўніцай. Мудрыя кажуць, што лепшы спосаб нешта ведаць — гэта самому некага нечаму вучыць. Так, вучачы геаметрыі і фізіцы мэблю ў пакоі, я вучыла сябе прамаўляць упэўнена. Тэлевізары цяпер не надта дазваляюць «крэмзаць» экран, затое памерамі і формай якраз да школьнай дошкі набліжаюцца. Чаму б не выкарыстаць яшчэ і гэту акалічнасць, у астатнім размяркоўваючы ролі так, як раіць наш псіхолаг? Паспрабуйце!

*Непрыдуманыя гісторыі*

# Першы раз у новы клас



Гарык у мінулым жыцці быў самым сапраўдным лідарам. Ініцыіраваў, верхаводзіў, настаўляў аднакласнікаў на правільны шлях. Добра ў яго гэта атрымлівалася. Сам здзіўляўся. Хоць суд ладзіць, хоць сцэнарый для КВЗ правіць.

Аднакласнікі прызнавалі яго лідарства бясспрэчным. І давяралі свайму герою ўсё, што можна даверыць. Вырашэнне канфліктаў і віншаванне з днём нараджэння, сола на дыване ў дырэктара і смычок дырыжора на конкурсе. Размеркаванне дзяжурстваў і здачу інвентара пасля ўборкі тэрыторыі. Гарык прымаў давер, павагу і сімпатыі. І самыя розныя даручэнні. Што яшчэ застаецца, калі назваўся лідэрам. У прынцыпе, яму падабалася. І атрымлівалася ўсё найлепшым чынам. І павінна было атрымлівацца…

Пераезд у новую кватэру ўсё сапсаваў.

— Да класа давесці? — спытала мама, калі выйшлі з кабінета дырэктара.

— Сам знайду, — падміргнуў сын.

Вось толькі ўпэўненасці паменшала. Гарык ацэньваў сітуацыю і разумеў: не ўсё

ў гэтым свеце так проста. Але цвёрда стаяў на сваім: ён з усім справіцца. Іначай, які з яго лідар? І потым, ён жа рыхтаваўся…

— Можна?

Дваццаць тры пары вачэй разглядалі візіцёра з цікаўнасцю.

— Новенькі? — здагадаўся настаўнік.

— Ён самы, — адказаў Гарык. — Прашу жалаваць. І трошкі любіць.

— Гэта хто там такі смелы? І без аховы? — данеслася з апошняй парты.

Рудаватая віхлястая чупрына ўзвілася над галовамі.

«Падобна, гэты тут за галоўнага», — ацаніў манёўр Гарык.

Дваццаць два позіркі памянялі настрой: з цікаўнасці на ацэньванне.

Тры дзясяткі варыяцый на тэму працягу ўласных дзеянняў прамільгнула ў азадачанай «цёплым» прыёмам свядомасці. Нахаміць? Паставіць нахабніка на месца? Не заўважыць? Адкрыта праігнараваць? Бліскануць гумарам і інтэлектам? А можа, пайсці з класа? Не, толькі не гэта…

Узняў погляд на «жыхара камчаткі»:

— А што, сваімі словамі свае ж думкі выказваць не атрымліваецца?

Павярнуўся да настаўніка:

— Калі вы не супраць, я сяду.

Настаўнік паціснуў плячыма:

— Выбірай, не губляйся.

Гарык сеў. Выклаў на парту дзённік і падручнік. Павярнуўся да суседа:

— Мяне Ігарам зваць. Можна Гарык.

— Макс, — працягнуў рудаваты.

— Працягнем, — указка настаўніка папаўзла па карце.

Дваццаць тры пары вачэй вярнуліся на сыходную пазіцыю. Хаця не, цяпер іх было дваццаць чатыры.

***А цяпер увага: пытанне! Хто з вас хаця б аднойчы выконваў ролю новенькага? Падзяліцеся ўражаннямі і парадамі.***

*Прасунуты старшакласнік:*

— Не тушуйся, чувак! Бываюць сітуацыі пагорай! Наступі на горла амбіцыям. Прымі ўсё як ёсць. Прыгледзься. Ацані пазіцыю з розных бакоў. А ўжо потым разварочвайся ў патрэбным напрамку. Цябе не паменшае. Хочаш быць лідарам — будзеш. З тваім-та досведам! Гэта толькі з першага пагляду мы такія розныя, а капні глыбей — спрэс чалавекі. Далёка не кожны імкнецца ўзяць на сябе адказнасць за іншых. Удачы!

*Сімпатулька:*

— Мы, дзяўчаткі, вельмі любім шкадаваць. Усе гэтыя пакутнікі такія сімпатычныя! Прыгледзься да дзяўчат. Знайдзі самую прыгожую і дзейнічай. Дадай у вочы смутку. Усмешку падбяры адпаведную. На многае не разлічвай. Будзеш хадзіць у фаварытах і карыстацца адпаведнымі прывілеямі. Першая прыгажуня класа не дазволіць нейкаму Максу прыніжаць свайго ўлюбёнца. А, ты ж, здаецца, хацеў застацца ў лідарах. Тым лепш: перажывеш працэс адаптацыі і разгорнеш крылы. Там ужо заступніца паглядзіць на цябе новым вокам. Ой, як я забалбаталася!.. Ледзь на спатканне не спазнілася. Калі што якое — пішы.

*Клапатлівая бабуля:*

— Ты ўжо як-небудзь першы дзень пратрымайся. Я да твайго вяртання кручонікаў напяку. З малінавым джэмам. Сядзем, пагаворым, разам нешта прыдумаем. Не звяры ж у тваім класе вучацца. Прызвычаішся. Пазнаёмішся. Сябе пакажаш. Усё наладзіцца трошкі пазней. Я ў цябе веру. Ты ў мяне малайчынка!

*Рэдактары гэтага часопіса:*

***— Калі што якое ў каго яшчэ здарылася, — пішыце. Задавайце пытанні, а мы знойдзем тых, хто на іх адкажа.***

# Легенды. Сівыя і страшныя




***Дружа!***

***Не памятаю, ці казаў табе гэта, але «Бярозка» ўважліва прыслухоўваецца да прапаноў сваіх чытачоў. Не далей як у мінулы аўторак адзін васьмікласнік прапанаваў нам стварыць рубрыку жахлівых гісторый — і вось у ноч на наступны аўторак я сяджу ў цёёёмным-цёёёмным пакоі, у змроооочным рыпуууучым фатэээлі і тэрмінова раблю першы артыкул!***

Недалёка ад «Зубронка» месціцца помнік Першай Сусветнай вайны — кайзераўскі мемарыял (кайзерам калісьці называлі імператара Германскай імперыі).

У той вялікай і страшнай вайне палягло 10 мільёнаў людзей з усяго свету. Ваявалі амаль усе значныя дзяржавы: з аднаго боку Германія, Аўстра-Венгрыя, пазней далучыліся Турцыя і Балгарыя, з другога — Расія, Вялікабрытанія, Францыя, Японія, Італія і ЗША. Рэшткі бетонных бліндажоў і вялізныя яміны захаваліся на Мядзельшчыне паўсюль.

Мемарыял стварылі ў 1936 годзе, калі гэта частка Беларусі належала Польшчы, у памяць аб ахвярах мінулай вайны. Пасля Другой Сусветнай ён быў закінуты і заняпаў. Толькі пасля таго, як Беларусь стала незалежнай, а Германія ўз'ядналася (памятаеш, калі гэта адбылося?), кайзераўскі мемарыял набыў цяперашні выгляд.

Пра гэта месца ходзіць шмат прыгожых легенд. Мы распавядзём табе дзве.

## ЛЕГЕНДА ПРА КАПЕЛАНА

Быў у нямецкай арміі адзін капелан (па-нашаму — святар). Ніхто не ведаў яго сапраўднага імя, ніхто не ведаў яго ўзросту, ніхто не ведаў яго мінулага. Здавалася, што ён з'явіўся ніадкуль, з іншага свету. Усе ведалі яго толькі як святога айца. Якою цяжкой ні была б бітва, капелан заўсёды быў побач з ваярамі. Ён увесь час цягаў з сабой невялічкую кафедру. Вакол яго ішлі баі: рваліся міны, свісталі кулі, падалі забітыя салдаты, а капелан стаяў, укленчыўшы за кафедрай акурат на перадавой і чытаў свае малітвы. Ён прасіў Усемагутнага, каб той даў розуму тым, хто ваюе, і прасвятліў іх, каб яны спынілі кровапраліцце. І хоць вакол гінула шмат ваяроў, капелан не набыў за ўсе бойкі ані маленечкай драпіны.

Неяк салдаты спыталі ў яго: «Святы айцец, што ж за малітвы такія вы чытаеце?» Ён адказаў ім, што моліцца, каб вайна скончылася, бо Усемагутны — супраць усякага забойства.

«Як? — выгукнулі нямецкія салдаты. — За ўвесь гэты час вы не прачыталі ніводнай малітвы за перамогу кайзераўскай арміі?»

«Так, — адказаў ім капелан. — Я малюся Усемагутнаму за ўсіх ваяроў, бо ў кожнага ёсць маці, якая чакае свайго сына жывым!»

Салдаты сталі ўпрошваць святара, каб той перад наступным боем аддаў малітву менавіта за перамогу іх зброі. Ім падалося, што малітва такога святога чалавека неўзабаве будзе пачутая Панам Богам і ён падорыць ім чаканую перамогу. Капелан доўга не згаджаўся, але нарэшце быў пераможаны верай і надзеяй, што ззяла ў вачах салдат, і саступіў іх просьбе.

І вось падчас бітвы, памаліўшыся за ваяроў, святар прачытаў палкую малітву за перамогу кайзераўскай арміі. І ледзьве ён вымавіў яе апошнія словы, як маланка працяла

яго. Яна прайшла скрозь капелана, не пашкодзіўшы ні кафедры, за якой ён стаяў, ні малітоўніка, з якога ён чытаў малітвы. Пасля бою, які так і не прынёс чаканай перамогі, на полі знайшлі цела капелана. Яго пахавалі разам з іншымі ваярамі без асаблівых ушанаванняў. На яго магільны камень паклалі малітоўнік — яго зброю, з якой ён прайшоў столькі бітваў. Салдаты зразумелі, што гэта яны загубілі капелана, выпрасіўшы малітву за іх перамогу. Кажуць, што калі яны прыйшлі праз дзень на яго магілу, то ўбачылі, што малітоўнік скамянеў — стаў вечным напамінам пра хуткаплыннасць чалавечага жыцця і пра нябёсы, дзе пішуцца іншыя кнігі — кнігі нашых лёсаў.



## ЛЕГЕНДА ПРА МОГІЛКІ

З даўніх часоў ходзіць легенда, што кожны год у ноч на першае жніўня (угодкі пачатку Першай Сусветнай вайны) апоўначы з магілы падымаецца старшы па чыну афіцэр. Ён заклікае астатніх — і вось яны ўжо шыхтуюцца ў доўгую калону. Той, першы, афіцэр становіцца на чале яе. І тады яны бязгучна маршыруюць па ваколіцах. Чуваць толькі слабы шоргат, ціхае мармытанне ды час ад часу гучныя спевы нейкай вайсковай песенькі аднекуль збоку. Потым усё зноў сціхае. Так і цягаюцца яны, абыходзячы месцы колішніх баёў, наведваючы сваіх таварышаў, што назаўсёды засталіся ў вакольных лясах. А ледзь наблізіцца світанак, яны зноў вяртаюцца да свайго апошняга прытулку.

Шэрыя прывіды ў ваенных мундзірах вяртаюцца, каб чакаць наступных угодак, а потым зноў паснуць вечным сном...

***Запісаў Віктар ЛУПАСІН***



*Генадзь Аўласенка, рэдактар аддзела падлеткавай творчасці*

## ЧАМУ ДЗЕЦІ ТАК ЛЮБЯЦЬ ЖАХІ?

Добра памятаю, як, сабраўшыся на вечаровай вуліцы, мы па чарзе пачыналі апавядаць жудасныя гісторыі. Вакол цемра, ад жаху кроў стыне, а тут чаргові апавядальнік глухім голасам: «…а ў той чорнай-чорнай дамавіне ляжыць чорны-чорны чалавек! А ў таго чорнага чалавека няма сэрца…» І як закрычыць: «Аддай маё сэрца!» Віскат, крык… і што? Пакрыўдзіўся хто-небудзь на апавядальніка, дадому ўсе адразу пабеглі? Як бы не так! Далей сядзяць, слухаюць. Чаму? Ды таму, што так прыемна сядзець у кампаніі сяброў, добра ведаючы, што ўсе гэтыя жудасныя аповеды — простая выдумка. Менавіта кантраст паміж страхам, які міжволі адчуваеш, і гэтым прыемным пачуццём уласнай бяспекі і стварае задавальненне, якое крыху азмрочвае толькі думка аб тым, што дадому табе прыдзецца ўсё ж тэпаць аднаму, ды яшчэ праз густую вечаровую цемру...


Канстанцін Касяк

*Напішы як Канстанцін Касяк – і станеш нашым аўтарам!*

# Немаленькая краіна

***«Каб любіць Беларусь нашу мілую, трэба ў розных краях пабываць», — у гэтых радках Алеся Ставера фактычна закладзена ўся праграма-максімум сучаснага беларускага патрыятызму. Каб любіць Радзіму, трэба пабываць у іншых краінах, пажадана пабольш і падалей.***

Са школы нас прывучаюць да таго, што мы жывём у маленькай краіне. На першы погляд здаецца, што ў нас усё кампактнае: і тэрыторыя, і гісторыя, і культура, і літаратура. Але гэта толькі на першы погляд. Калі капнуць глыбей, то адкрываецца зусім іншая рэальнасць.

Каб зразумець гэта, дастаткова патрапіць у краіну, якая тэрытарыяльна ў чатырнаццаць разоў меншая за Беларусь. Гэта я пра Чарнагорыю. Насельніцтва краіны ўсяго 622 тысячы чалавек. Вось дзе сапраўды «маленькі, але ганарлівы» народ. Чарнагорцы, праўда, не надта перажываюць з-за таго, што іх няшмат. Хутчэй, наадварот — ганарацца гэтым. Адзін мой знаёмы чарнагорац вельмі здзівіўся, калі я сказаў яму, што многія беларусы лічаць сваю краіну маленькай. «Маленькая краіна — гэта калі на ўроку геаграфіі не патрэбны карты, бо ўся краіна бачна праз акно», — пажартаваў у адказ ён пра сваю Радзіму.

У Еўропе шмат краін меншых за Беларусь і па колькасці насельніцтва, і тэрытарыяльна, але ніхто, здаецца, з іх жыхароў не камплексуе з гэтай прычыны. Удвая меншая за нас Вугоршчына настолькі суровая краіна, што нават рускамоўныя экскурсаводы невугорскага паходжання пачынаюць свой расповед з таго, што паведамляюць не толькі пра дзесяць мільёнаў венграў, якія жывуць у краіне, але і пра пяць мільёнаў суайчыннікаў, якія знаходзяцца па-за межамі. Былыя вугорскія тэрыторыі таксама не забываюць згадаць. Відаць, добрая памяць.

Усе нашы комплексы ад няведання, ад нежадання ведаць і ад пагарды да свайго. Гэта такая форма мазахізму з нацыянальнымі асаблівасцямі. Лечыцца яна проста — Вікіпедыяй ці кнігай.

На нашай зямлі безліч месцаў і мястэчак, дзе адбываліся грандыёзныя падзеі, спыняліся і жылі сусветнавядомыя асобы. Праз Беларусь, як і праз іншыя еўрапейскія краіны, ва ўсіх напрамках ездзілі людзі, якія пакідалі пасля сябе спадчыну. Час мінае і ў памяці губляюцца важныя штрыхі да партрэту краіны, забываецца ўсё тое, што яшчэ ўчора было важным.





Нам ёсць чым ганарыцца, ёсць пра што расказаць. Гэтых расповедаў хопіць, каб пагаварыць з выпадковым госцем, які нічога не ведае пра наш край. Расказваючы пра краіну, паказваючы беларускія вёскі, мястэчкі і гарады, можна самому пачаць разумець нешта звышнатуральнае, метафізічнае, схаванае ад чужых вачэй. Тое, чаго даўно ўжо няма ў вымярэнні фізічным, чаго не здольныя ўбачыць пустыя вочы і тое, што стала прысутнічае ў нашым духоўным жыцці, вісіць дамоклавым мячом над свядомай беларускай галавой.

Калі я вяртаюся з-за мяжы праз Брэст, заўжды чакаю Стоўбцаў, бо для мяне гэта знак, што дом ужо зусім побач. Коласаўскія мясціны і гадзіна язды да сталіцы. Мала хто ведае, што за палякамі адсюль хадзіў міжнародны экспрэс Маньчжурыя-Стоўбцы.

Ля памежнай станцыі Коласава ўвосень 1933 года адбылася знакавая падзея для беларусаў: бальшавікі памянялі палякам бацьку беларускай драматургіі Францішка Аляхновіча на бацьку беларускай граматыкі Браніслава Тарашкевіча.

Яшчэ праз некалькі кіламетраў невялікая чыгуначная станцыя Негарэлае, якая была нанесена на ўсе карты свету. Адсюль пачынаўся шлях савецкіх грамадзян у вольны свет, сюды ж прыязджалі вядомыя і не вельмі прадстаўнікі буржуазіі, каб пазнаёміцца бліжэй з таямнічай першай краінай пралетарыяў і сялян. Адсюль адыходзіў вядомы ў міжваенны перыяд заходнееўрапейскі экспрэс «Парыж-Негарэлае», на якім выпраўляліся ў выгнанне з радзімы многія прадстаўнікі інтэлігенцыі былой Расійскай імперыі. Аляксандра Тверыцінава прысвяціла гэтаму цягніку аднайменны раман, у анатацыі да якога так і сказана: пра лёс эміграцыі і вяртанне на Радзіму.

На гэтай станцыі ў 1928 годзе дэлегацыя вядомых беларускіх пісьменнікаў, сярод якіх былі Цішка Гартны і Янка Купала, Рыгор Кобец і Платон Галавач, Андрэй Александровіч і Міхась Лынькоў, сустракалі Максіма Горкага. Гэта з яе платфомы выпраўляўся ў Парыж Якуб Колас, каб пачытаць тамтэйшым слухачам свае вершы. Уладзімір Маякоўскі, рыхтуючыся да грандыёзнага падарожжа па краінах Еўропы і Амерыкі, прысвяціў Негарэламу некалькі радкоў у сваім вершы «Мы і яны». Перад адкрыццём Амерыкі ён адкрыў для сябе беларускі край. Праз Негарэлае ў розны час праязджалі Герберт Уэлс, Стэфан Цвейг, Рамэн Ралан і іншыя.

У Парыж, дарэчы, можна і цяпер трапіць цягніком з Беларусі, праўда, ён маскоўскі, шмат каштуе і ў Негарэлым не спыняецца.

Гэты тэкст — толькі павярхоўны накід алоўкам на пакамечаным аркушы ля акна турыстычнага аўтобуса, які адзінока ляціць па пустой начной трасе ў мінскім напрамку. Без падрабязнасцей, паглыбленняў і факталогіі. Калі капнуць глыбей, можна знайсці нашмат цікавейшае, я ўпэўнены…

## ВЯСЁЛЫ ДРЫВАСЕК

У лесе, дзе вясёлы дрывасек,
А можа быць, смяшлівы дрываруб,
Тугіх ялін, нагледзеўшы, насек
І выставіў духмяны, звонкі зруб,
Вадзіліся і птушкі, і звяры,
І лесавік старэнькі ў гушчары.

Калі ж той дрывасек завершыў дах,
А можа, саламяную страху,
Якую асядлаў вясёлы птах,
Чыё імя — Пятровіч — на слыху
І чый звініць у кожнай вёсцы крык,
У хаце пасяліўся дамавік.

Зайграў на балалайцы дрываруб,
Калі ў сцяну забіў апошні цвік,
Паднёс жалейку лесавік да губ,
І ўдарыў у цымбалы дамавік,
Сам па сабе, бы ў бубен, біў тапор,
І заспяваў пад гранне тое бор:

Тра-ля, ля-ля, ля-ля,
Тра-ля, ля-ля, ля-ля,
Тра-ля-ля, ля-ля, ля-ля,
Тра-ля-ля, ля-ля!
А песенька вясёлаю была
І радавала сэрцы там і тут,



Ляцела ад сяла і да сяла,
Сабою напаўняла кожны кут.
Пад спеў той прытанцоўвалі ў хлявах
І конь, і бык, а пеўні — на плятнях.

Даўным даўно зрабіўся полем лес
І лесавік пайшоў кудысь за свет,
На хацішчы расце буяны бэз,
Дамавіка згубіўся нават след.
І дрывасек аджыў свой шчасны век:
Што зробіш тут — не вечны чалавек.

Але і сёння ў Крывіцкай Ліцве
Штораз, як толькі певень адкрычыць,
У вецці і ў паветры ажыве
І весела і звонка загучыць
Той неўміручы дрывасекаў спеў,
Якому я вось толькі што падпеў:

Тра-ля, ля-ля, ля-ля,
Тра-ля, ля-ля, ля-ля,
Тра-ля-ля, ля-ля, ля-ля,
Тра-ля-ля, ля-ля!

## ВЕРШ ПАД НАСТРОЙ

Дзень не сонечны, а цёплы,
Суха і бязветрана.
Я ад мітусення ўцёклы,
Мяккі, белы, фетравы.

Можна віць з мяне вяроўкі,
Можна слаць пад ножанькі,
Падказліць, — а мне ўсё роўна:
Рожанькі — дык рожанькі!

Заўтра будзе ўсё іначай:
Вецер, дождж ці сонейка,
Засмяюся ці заплáчу —
Заўтра, ды не сённейка!

Сёня ціхі я і добры —
Кацянятка ў кошыку;
Пацалую нават кобру,
Абдыму — хоць вожыка!

## КАЛЫХАНКА

Дождж брыдзе па межах глейкіх,
У разорах — сотні рэчак.
Сон трымціць на цяжкіх вейках
Паміж змежаных павечак.
Сон, нібы салодкі скрылік
У напаўраскрытых губках.
Спі-засні, мая Марыля,
Спі-засні, мая галубка.
Сон і дождж,
Дождж і сон,
Сніцца мамін парасон.

А з яго ж не надзівіцца,
З ім ніяк не нагуляцца,
Ён, як неба, дзе сініцам
Ёсць дзе ўволю накрыляцца.
І сама ты ўжо лунаеш
Паміж перыстых аблокаў.
Ты ў дрымоце патанаеш,
Мой анёлак яснавокі.
Дождж засне,
Сон міне,
Быць і сонцу, і вясне.

## У ЦЯНІСТЫМ БАРЫ

У цяністым бары
На высокай гары,
Дзе разбураны замак стары,
У мурожнай траве,
У нябёс сіняве
Крышталёвае рэха жыве.

Ані ўдзень, ні ўначы
Ад яго не ўцячы:
Яно побач, услед бегучы,
Аб далёкую даль,
Як аб камень ці сталь,
Разаб'е свой вясёлы крышталь.

Сто асколкаў звіняць —
Ні ўхапіць, ні падняць —



Бор звініць, і звініць сенажаць.
Уцякае твой жаль
І твой смутак у даль —
Зноўку цэлы вясёлы крышталь.

Разбіваецца ён
У не лепшыя з дзён —
І аслепламу свет зноў відзён
У цяністым бары
На высокай гары,
Дзе разбураны замак стары.

* * *

Звон ледзьве чутны, празрысты і тонкі
Пахне, нібы вінаградныя гронкі,
Свеціцца зорна, сплятаецца ўзорна
Сыплецца зернем, звядае пакорна,
Зноў узгараецца зыркім вуголлем
І расцякаецца па наваколлі.
Гэта душы маёй струны кранае
Муза, што сэрца са светам яднае.

***Фелікс БАТОРЫН***
***Малюнкі Аляксандры ДЗЕЖЫЦ***

# РЭАЛІЦІ-ШОУ «ЗЯМЛЯ»

*Навукова-фантастычнае апавяданне*

У дзверы пастукалі.

— Заходзьце! — адарваўшыся ад тэарэтычных выкладак, сказаў Кгілкгуд Нарвоіш.

— Падлятаем, спадар інжынер! — сунуў галаву ў каюту памочнік камандзіра «Урбэна Лэверье».

— Дзякуй! — кіўнуў Кгілкгуд Нарвоіш. Дванаццацігадовае падарожжа нарэшце закончылася. — Зараз іду!

Гаіл Юц адправіўся па сваіх справах, а Кгілкгуд Нарвоіш выключыў камп'ютар і паспяшаўся на камандны мосцік. Кручэнне зоркалёта вакол сваёй восі не толькі стварала штучную гравітацыю, але і дазваляла кампенсаваць перагрузку пры звышхуткім руху па парабалічнай траекторыі.

Экіпаж на чале з капітанам Судмантам Неміровічам быў заняты перадпасадачнай падрыхтоўкай.

Кгілкгуд Нарвоіш апусціўся ў крэсла і прышпіліўся. З адлегласці ў адзін і тры дзясятых мільёна кіламетраў Нерэіда здавалася расплывістай шэрай плямай — і нядзіўна, бо яе дыяметр складаў усяго трыста сорак кіламетраў. Наколькі памятаў Кгілкгуд Нарвоіш, высокі эксцэнтрысытэт арбіты паказваў на тое, што спадарожнік з'яўляецца захопленым Нептунам астэроідам пояса Койпера. Навукоўцы да гэтага часу не ведалі ні дакладнага ўзросту Нерэіды, ні прызначэння пірамід, хоць ад часу пралёту зонда «Ваяджэр-2» міма Нептуна прайшло больш за пяцьдзясят восем гадоў.

Спадарожнік павольна павялічваўся ў памерах, прымушаючы Кгілкгуда Нарвоіша кусаць вусны ад напружання. Пры думцы, што Нерэіда вось-вось прыадкрые заслону таямніцы, сэрца забілася хутчэй.

…Нерэіда была падобная на гіганцкі брудна-шэры валун. Адсутнасць атмасферы рабіла спадарожнік Нептуна яшчэ больш непрывабным. Чатыры піраміды — адна вялікая і тры меншыя — адрозніваліся ад асноўнага фону астэроіда, насычанага вугальна-чорным колерам і строгай сіметрыяй ліній.

— Прыродзе такое не па сілах! — піраміды прывялі Нарвоіша ў захапленне.

Манеўруючы пры дапамозе малых рухавікоў, штурман апусціў «Урбэна Лэверье» ў дваццаці кіламетрах ад пірамід. Кгілкгуд, ледзь стрымліваючыся, каб не пабегчы, рушыў у грузавы адсек, дзе чакалі сваёй гадзіны роверы і адмыслова сканструяваныя для работы пры тэмпературы мінус дзвесце дваццаць градусаў скафандры.

Даследчая каманда ўжо сабралася. На тое, каб загрузіць абсталяванне і матэрыялы, апрануцца ў скафандры ды правесці тэсціраванне ўсіх сістэм, навукоўцам спатрэбілася крыху менш за гадзіну.

Створкі шлюза адчыніліся.

— Поспехаў нам усім! — Кгілкгуд Нарвоіш махнуў рукой. Роверы заехалі ў шлюз.

Шырокі трап папоўз уніз, як толькі зачыніліся створкі і было адпампавана паветра.

Пастурова праём станавіўся шырэйшым, расло хваляванне Кгілкгуда Нарвоіша, бо чалавецтва атрымала доказ, што яно несамотнае ў сусвеце. Усведамленне, што людзі ўпершыню высадзіліся так далёка ад Зямлі, таксама кружляла галаву.

Калона з пяці ровераў пакаціла да пірамід. Кгілкгуд з цікавасцю глядзеў па баках, не забываючы час ад часу кідаць погляд на індыкатар відэакамеры. Агеньчык гарэў роўна.

Наколькі сягала вока, слалася аднатонная раўніна. Кгілкгуду Нарвоішу яна нагадала месяцовую. Раптам захацелася паўтарыць словы Ніла Олдэна Армстронга.

— Адзін маленькі крок для чалавека, але гіганцкі скок для ўсяго чалавецтва!

— Дакладна! — кіўнуў Гарм Грынько, намеснік начальніка экспедыцыі і лепшы сябар Кгілкгуда Нарвоіша.

Лагер было вырашана разбіць ля паўночнага боку цэнтральнай піраміды.

Пакуль навукоўцы ставілі палаткі і вызвалялі роверы ад грузу, Кгілкгуд Нарвоіш і Гарм Грынько вырашылі прагуляцца ўздоўж падножжа, каб атрымаць агульнае ўражанне.

Піраміда была абліцавана цвёрдым, падобным адначасова на пластык і граніт матэрыялам. Пры ўважлівым разглядзе высветлілася, што абліцоўванне не маналітнае — бакавая грань складалася з мноства фракталаў.

— Не лезе! — пасля некалькіх бясплённых спроб упіхнуць лязо нажа ў шчыліны паміж пліткамі, рэзюмаваў Гарм Грынько.

Кгілкгуд Нарвоіш правёў рукой у пальчатцы па сцяне. Паверхня была гладкай, быццам нядаўна адшліфаванай.

— Цікава, колькі ёй гадоў?

Гарм Грынько чаравіком разгроб пыл ля падножжа.

— Мільёнаў пяць, не менш! Але дакладныя лічбы атрымаем толькі пасля правядзення ўсяго комплексу даследаванняў.

Нават калі Гарм Грынько і памыліўся, піраміды Нерэіды ўсё роўна былі нашмат старэйшыя за чалавечую цывілізацыю. Пабадзяўшыся яшчэ з чвэрць гадзіны і не знайшоўшы нічога падобнага на ўваход, астранаўты вярнуліся да таварышаў.

Нягледзячы на тое, што экспедыцыя была разлічана на тры месяцы, Кгілкгуд Нарвоіш вырашыў не губляць часу. Наўрад ці ў бліжэйшай будучыні варта разлічваць на новую.

— Пачынаем!

Перш за ўсё навукоўцы заняліся фатаграфаваннем, відэазапісам і абмерамі. У хуткім часе былі атрыманы дадзеныя пра вышыню, вуглы нахілу бакавых граняў, даўжыню рэбраў і бакоў падножжа, плошчу і агульны аб’ём.



Лічбы дзівілі.

— Тут і «залаты трохкутнік», і лічба пі, і паслядоўнасць Фібаначы! — не думаў хаваць свайго захаплення Гарм Грынько. — Хто б ні пабудаваў гэтую піраміду, з матэматыкай ён сябраваў!

З узростам цэнтральнай піраміды Гарм Грынько памыліўся ўсяго на сто пяцьдзясят тысяч гадоў. У большы бок.

Пошукі ўвахода поспеху не прынеслі. Нічога не дало і выкарыстанне алмазнага свердла, газавага разака, механічнай кавадлы ды карбаранавай кіслаты.

— Што будзем рабіць?

— Давядзецца ўжываць выбухоўку! — вандалізм Кгілкгуду Нарвоішу не падабаўся, але за адсутнасцю іншага варыянта падыходзіў і накіраваны выбух. Галоўнае — правільна разлічыць яго магутнасць. — Але гэта — заўтра!

У лагеры засталіся толькі трое дзяжурных, астатнія вярнуліся на «Урбэн Лэверье». З-за лішку адрэналіну ў крыві Кгілкгуд Нарвоіш заснуў толькі пад раніцу.

Да пірамід адправіліся адразу ж пасля сняданку, нагрузіўшы роверы некалькімі кілаграмамі гексанітрагексаазаізавюрцытана.



— Атрымаецца? — Кгілкгуда Нарвоіша даймалі сумненні.

— Не хвалюйцеся, спадар інжынер! Праход будзе! — адгукнуўся Скумін Сіма. Выбуховы тэхнік не схлусіў — CL-20 прабіла ў сцяне квадратную дзірку. Але толькі з трэцяй спробы.

«Чалавек як быў варварам, так ім і застаўся!» — падумалася Кгілкгуду Нарвоішу.

Слабое прыцягненне дазволіла разабраць завал хутка.

— Няхай гэта будзе не зброя! — сказаў Кгілкгуд Нарвоіш і першым палез у праём.

Цэнтральная піраміда складалася з адзінага памяшкання, якое займаў велізарны механізм.

— Як ты думаеш, што гэта? І для чаго яно патрэбна?

— Не ведаю, Гарм…

На тое, каб стварыць аб'ёмную мадэль, навукоўцам спатрэбілася чацвёра сутак. Гледзячы на чарцёж, Кгілкгуд Нарвоіш злавіў сябе на тым, што дзесьці ён ужо бачыў нешта падобнае.

— Але дзе?

Падключыўшыся да інтэрнэту, Кгілкгуд Нарвоіш выдаткаваў амаль двое сутак на пошук адказу перш чым заснуў прама над планшэтным камп'ютарам.

Успамін усплыў з памяці, калі Кгілкгуд Нарвоіш мыўся. Адкінуўшы вільготны ручнік, інжынер паваліўся ў крэсла і адправіў жонцы паведамленне. На Зямлі быў дзень, таму адказ Кгілкгуд разлічваў атрымаць праз дзве-тры гадзіны.

Гела адказала пазней. Мяркуючы па ўсім, паўсталі нейкія праблемы ў бібліятэчным сховішчы.

Ад чакання Кгілкгуд ледзь не звар'яцеў. З-за хвалявання адкрыць файл атрымалася толькі з трэцяй спробы. Кніга была вельмі старой — трыццатых гадоў мінулага стагоддзя, але менавіта гэта зараз і патрабавалася Нарвоішу.

Калі Кгілкгуд Нарвоіш дабраўся да патрэбнага месца, сумненняў не заставалася.

— Гарм, калі ласка, зайдзі да мяне! — гаварыць спакойна не атрымлівалася.

— Чаго клікаў?

— Я ведаю, што мы знайшлі!

— Апавядай!

— Тэлевізійны перадатчык! Просты, нават у нейкай ступені прымітыўны, але ж чым прасцей абсталяванне, тым даўжэй яно праслужыць!

Бровы Гарм Грынько палезлі на лоб.

— Глядзі сам. Гэта — чарцёж механізму, а гэта — схема транслятара тэлевізійнага сігналу!

— А ты маеш рацыю… Відэаўзмацняльнік, сінхрагенератар, перадаючая камера, фармавальнік ТБ-сігналу… Выходзіць, увесь гэты час за людзьмі хтосьці назіраў?

— Д'ябал, яны бачылі ўсё… А мы гадаем, чаму кантакт да гэтага часу не адбыўся. Вось табе і тлумачэнне маўчання сусвету… Шклоўскі б моцна здзівіўся!

Павісла паўза.

Парушыць маўчанне першым адважыўся Гарм Грынько:

— Давай паспрабуем даведацца, куды ішоў сігнал!

— Не атрымаецца, бо перадатчык накіраваны адначасова ва ўсе бакі… Баюся, што аўтарства анлайн-трансляцыі назаўсёды застанецца нераскрытым!

— А можа, так будзе лепш?

***Сяргей БЕЛАЯР***
***Малюнкі аўтара***



# Калдуны літоўскія

*Пан падлоўчы быў родам дзесь з Гродзеншчыны і паходзіў, як ён казаў, са старога дваранскага роду. Тутэйшае жыхарства лічыла яго палякам, сам жа пан падлоўчы з гэтым не згаджаўся. «Я — ліцвін», — з нейкай гордасцю зазначаў пан падлоўчы.*

Памятаеш, адкуль гэта? «На ростанях» Якуба Коласа. Пан падлоўчы там так авантурна і са смакам апісаны, што, далібог, хочацца з ім пазнаёміцца. *Што ж датычыцца яго ліцвіналюбства, дык яно яшчэ выяўлялася і ў тым, што ён вельмі любіў літоўскія калдуны. І гэтых калдуноў, як запэўніваў пан падлоўчы, ён з'еў аднойчы сто сорак штук.*

Мо і нам паспрабаваць? Між іншым, спаборніцтвы на колькасць з'едзеных калдуноў у нас ранейшымі часамі ладзіліся. А ў той самай Гродзеншчыне, з якой пан падолоўчы быццам бы родам, дзеля жарту адзін калдун з замесу начынялі перцам. Ад начыння ўвогуле шмат што залежыць. Якое хочаш пакаштаваць у першую чаргу? Тварог ці сушаныя вішні? Разынкі або чарнаслівы — таксама цікава. Калі начынне салодкае, то падлівай няхай служаць вяршкі, узбітыя з карыцай, або які-небудзь сіроп. Калі ж узяць вэнджанай шынкі ды грыбоў дадаць сушаных, то атрымаюцца калдуны графа Тышкевіча. Ягамосць любіў іх на адмысловым цесце — на цыбульчыным соку мешаным. Хочаш пакаштаваць? Зараз навучу, як рабіць.

***Што трэба для цеста:***

***2 шклянкі мукі,***
***2 яйкі і 1 жаўток,***
***3—4 ст. л. соку цыбулі,***
***соль.***

***Што трэба для начыння:***

***150 г сухіх грыбоў,***
***2 цыбуліны,***
***200 г вэнджанай шынкі,***
***2 вараныя яйкі,***
***1 сырое яйка.***

***Як гатаваць:***

З усіх названых кампанентаў мясіць цеста да той пары, пакуль не зробіцца вельмі эластычным, пасля пакінуць пад накрыўкай для выспявання, а тым часам узяцца за начынне. Грыбы замачыць, зварыць, пакрышыць і падсмажыць. Цыбулю здрабніць і таксама падсмажыць. Шынку і вараныя яйкі парэзаць на дробныя кубікі. Усё перамяшаць і заправіць для глейкасці сырым яйкам. Цеста тонка раскатаць, выразаць з яго кружкі, раскласці па кружках начынне і пазлепліваць краі, каб атрымаліся апетытныя, хоць яшчэ і сырыя паўмесячыкі. Зварыць іх у падсоленай вадзе, а потым або падаць з топленым маслам, або яшчэ папярэдне падтушыць ці падсмажыць — як каму больш падабаецца.

І чытай Якуба Коласа, добрая літаратура заўсёды, між іншым, добры смак мае.

# Бярозка


Чытаць і думаць

*Штомесячны грамадска-палітычны*
*і літаратурна-мастацкі часопіс (для школьнікаў)*
***Выдаецца са снежня 1924 года***







Зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ.
Рэгістрацыйны № 210.

**Заснавальнік і выдавец**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Адрас: 220013, г.Мінск, вул. Б.Хмяльніцкага, 10а.
Тэл./факс: 8 (017) 287-19-19.

**Адрас рэдакцыі**
220005, г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 39.
Тэл.: 8 (017) 284-85-24;
8 (017) 284-41-88.
bjarozka@mail.ru
http://www.maladost.lim.by/berezka

Падпісана да друку 9.01.2015

Фармат 60x84 ⅛. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 5,58. Ул.-выд. арк 5,28.
Тыраж 1033 экз.
Заказ


***На першай старонцы вокладкі — малюнак вучня Мінскай дзяржаўнай гімназіі-каледжа мастацтваў Андрэя Царыкевіча***




Маленькая дзяўчынка пытаецца ў дзядулі:

— Дзеда, а што гэта за ягады?

— Гэта чорныя парэчкі.

— А чаму яны чырвоныя?

— Ды таму, што зялёныя!

# Як зрабіць з мухі слана



У нашага супрацоўніка Віці Лупасіна атрымалася! Праўда, не зусім. Знайдзі памылку і паспрабуй, калі такі разумны, самператварыць муху ў слана. За старанне атрымаеш прыз!

Версія Лупасіна:

муха — суха — саха — сала — сола — соль — боль — баль — балт — блат — брат — брак — брук — крук — крок — кроп — клоп — клон — слон.

## ПЫТАННІ ДЛЯ ЗНАХОДЛІВЫХ:

**1.** Сабака быў прывязана да вяроўкі даўжынёй 10 метраў, але здолеў адбегчы аж на трыста метраў. Як яму гэта ўдалося?

**2.** Калі казе споўніцца дзесяць гадоў, што з ёй будзе далей?

**3.** Ці можа чалавек падскочыць вышэй экскаватара?

**4.** Ідзе то ў гару, то з гары — і ўсё роўна застаецца на месцы. Што гэта?

**5.** Да ракі падышлі двое. Ля берага стаіць лодка, якая можа вытрымаць толькі аднаго. Але гэтыя двое ўсё ж пераправіліся на процілеглы бераг. Як?

**6.** Ляцелі вароны, селі на бароны. Сядуць па адной — варона лішняя, сядуць па дзве — барана лішняя. Колькі было барон і колькі варон?

**7.** Вы сядзіце ў самалёце, наперадзе ў вас конь, за вамі лодка. Дзе вы?

**8.** Што не можа змясціцца ў самай вялікай каструлі?

**9.** Адно вока, адзін рог… але ўсё ж не насарог.

**10.** Чым больш з яе бярэш, тым большай яна робіцца.

## Падарунак ад



Вожыка






*Малюнак Вікенція Пузанкевіча*

Адказы на пытанні для знаходлівых:

1. Вяроўку забыліся прывязаць да слупа.
2. Далей ёй пойдзе адзінаццаты год.
3. Можа, бо экскаватар наогул не ўмее падскокваць.
4. Дарога.
5. Яны былі на процілеглых берагах.
6. Тры бараны і чатыры вароны.
7. На каруселі.
8. Крышка ад гэтай каструлі.
9. Карова з-за вугла выглядае.
10. Яма.

## Страшна цікава!

**На 13-й старонцы ў лютаўскім нумары:**
***Як не баяцца ночы (калонка прывіда Аркашы)***

Чакай, не збягай! Я выдатна разумею, што ты ўжо дарослы і не баішся такой... дробязі. Аднак у цябе можа быць малодшы брат, які дагэтуль ніяк не можа заснуць з выключаным святлом. Або ты ведаеш сімпатычную баязліўку. Ну, або маеш цалкам замарочанага аднакласніка, для якога Слэндар — рэальны персанаж. Дык дапамажы ім, затраціўшы колькі хвілін на чытанне маёй старонкі.

## Выключна ўлётна!

**У наступным «Бел. ліце»:**

«Аднойчы, гадоў сто пяцьдзясят з лішкам таму, аднаму беларускаму шляхціцу, што цешыўся графаманіяй, стукнула ў галаў нашрайболіць паэму на мясцовым дыялекце. У гэтым творы антычныя багі й багіні размаўлялі па-беларуску, паводзілі сябе зусім як тутэйшыя Янкі ды Матруны, а, значыцца, і беларускую мову зрабілі трошкі боскаю, пра што кажуць сучасныя літаратуразнаўцы. А самі паводзілі сябе рыхтык тутэйшыя, перапрашаю, людзі...»

*Гэта табе так пра паэму «Тарас на Парнасе» расказваецца. Пачытаеш «Бярозку» — і захочацца засесці за бел.літ. па-сур'ёзнаму.*

**74879 — льготны**
**74822 — індывідуальны**
**748222 — ведамасны**

## Поўны эксклюзіў!

**«КінаШкола» ў «Бярозцы»**

Марыш стаць прадзюсарам, акцёрам, рэжысёрам або сцэнарыстам? З наступнага нумара начаткам гэтых вартых спраў будзе вучыць сапраўдная «КінаШкола»! Яе «філіял» спецыяльна для цябе на нашых старонках адкрывае вядомы рэжысёр Андрэй Палупанаў.

*Не прапусці першы ўрок! Падпішыся на «Бярозку»!*


ISSN 0320-7579
9 770320 757007 15001